15 сакавіка 2019 | № 10 (621) Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ







# Каму закон — Канстытуцыя?

## Рэфлексіі з нагоды 25-годдзя Асноўнага закону



Аксана КОЛБ

Вы чыталі нашу Канстытуцыю? Там усяго 9 раздзелаў і 146 артыкулаў. Цікавы дакумент, а галоўнае — карысны, і нават дэмакратычны, нягледзячы на папраўкі 1996 і 2004 гадоў. Але толькі для каго наша Канстытуцыя — асноўны закон? І ці наогул яна — Асноўны закон?

Калі прааналізаваць канстытуцыю СССР 1936 года і параўнаць яе з канстытуцыямі іншых еўрапейскіх краін таго часу, то можна з упэўненасцю сказаць, што яна была самай дэмакратычнай канстытуцыяй таго часу. Але што з таго? Самая дэмакратычная канстытуцыя не перашкодзіла ўладзе знішчаць мільёны грамадзян у лагерах, расстрэльваць без суда і следства, кідаць за краты за любое іншадумства, і нават проста так.

Наша Канстытуцыя — не горшая за шмат якія іншыя. Вось толькі праблема ў тым, што яна дэ-факта не з'яўляецца законам наўпроставага дзеяння, яна наогул не з'яўляецца той асновай, на якой будуецца ўся прававая сістэма дзяржавы. Больш за тое, штодня асноўныя артыкулы Канстытуцыі парушаюцца на розных уладных узроўнях.

Вось, напрыклад, артыкул 7 сцвярджае: «Дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства». Цікава, у адпаведнасці з якой канстытуцыяй прымаюцца шматлікія дэкрэты, дырэктывы і ўказы?

Артыкул 13 дэкларуе: «Дзяржава надае ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх формаў уласнасці… Дзяржава гарантуе ўсім роўныя магчымасці свабоднага выкарыстання здольнасцей і маёмасці для прадпрымальніцкай і іншай не забароненай законам эканамічнай дзейнасці». Хацелася б паслухаць, што думаюць індывідуальныя прадпрымальнікі пра «свабоднае выкарыстанне здольнасцей і маёмасці», ды наогул не набліжаныя да ўлады бізнесоўцы пра «роўныя правы для ажыццяўлення дзейнасці».

Ідзем далей, артыкул 15: «Дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны, свабоднае развіццё культур усіх нацыянальных супольнасцяў, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь». Толькі, відаць, беларускай мовы і нефарматных культурных дзеячаў гэта не тычыцца.

Найбольш паказальны раздзел ІІ «Асоба, грамадства, дзяржава». Пачытайце — здзівіцеся, калі даведаецеся, як усё ў нас павінна быць. А пасля параўнайце з тым, як ёсць. Хаця б вось гэта: «Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя» (артыкул 34). Паспрабуйце даведацца, як налічваюцца камунальныя плацяжы ці куды ідуць нашы падаткі.

«Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуецца дзяржавай», — сцвярджае артыкул 35 Канстытуцыі. Шкада, што так не думаюць тыя, хто не дае дазвол на правядзенне Дня Волі ці афармляе пратаколы за ўскладанне кветак.




«Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека, гэта значыць права на выбар прафесіі, роду занятку і работы ў адпаведнасці з прызваннем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы… Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якая вызначаецца прыгаворам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы… Асобам, якія працуюць па найму, гарантуецца справядлівая доля ўзнагароджання ў эканамічных выніках працы ў адпаведнасці з яе колькасцю, якасцю і грамадскім значэннем, але не ніжэй за ўзровень, які забяспечвае ім і іх сем'ям свабоднае і годнае існаванне» (артыкулы 41, 42). Нават каментаваць нічога не буду, бо шмат нашых чытачоў зараз глянулі ў свае разліковыя лісткі і падумалі пра «справядлівасць».

> **25 гадоў Беларусь жыве пры Канстытуцыі, і амаль столькі ж улады не кіруюцца Асноўным законам**

Ёсць яшчэ артыкулы, якія гарантуюць права на жыллё, бясплатную адукацыю, бясплатнае медабслугоўванне, права на годнае сацыяльнае забеспячэнне ў старасці ды пры страце працаздольнасці і права на свабоду выбару мовы выхавання і навучання. І яшчэ шмат іншых вельмі правільных і патрэбных артыкулаў.

Усе 25 гадоў незалежная Беларусь жыве пры даволі дэмакратычнай і годнай Канстытуцыі, і амаль столькі ж трымальнікі ўлады ці наогул не кіруюцца ў сваёй дзейнасці Асноўным законам, ці перакручваюць яго на сваю карысць.

Вось і атрымліваецца, што па Канстытуцыі — у нас дэмакратыя, а калі верыць прэс-сакратарцы Лукашэнкі Наталлі Эйсмант, то «наш брэнд — дыктатура». Значыць, што кагосьці трэба папраўляць. Ці не пра гэтыя папраўкі казаў кіраўнік Беларусі нядаўна?

Што тут скажаш… Статут ВКЛ і «рымскае права» перажылі не адно стагоддзе. У адрозненне ад шматлікіх дыктатараў. Таму са святам вас, з 25-годдзем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

УМОВЫ ДЛЯ МОВЫ

# Спынім «мяккую русіфікацыю» разам!

Ігар СЛУЧАК, Аліна НАГОРНАЯ

**З «мяккай русіфікацыяй» мы сустракаемся кожны дзень, і перамагчы яе мы зможам толькі разам, аб'яднаўшы ўсе нашы магчымасці і веды дзеля адной мэты — спынення дыскрымінацыі беларускамоўных беларусаў па прыкмеце мовы.**

Калі казаць проста — каб мы і вы, кожны мог камфортна карыстацца роднай беларускай мовай ва ўсіх сферах жыцця, не прыкладаючы дадатковых намаганняў, без стрэсу і абразаў, без канфліктных сітуацый і непаразуменняў з боку чыноўнікаў і ўсіх тых, хто па родзе сваёй дзейнасці аказвае нам паслугі.

Як «мяккая русіфікацыя» пранікла ва ўсе сферы сённяшняга жыцця, у першую чаргу ў сферу дзяржаўнага кіравання і найярчэй праявіла сябе ў справаводстве? Сёння можна казаць, што выкарыстанне беларускай мовы ў справаводстве з'яўляецца хутчэй выключэннем, чым правілам. Збольшага беларуская мова выкарыстоўваецца там, дзе гэта з нейкіх прычын склалася традыцыйна: у кадравым справаводстве выканкамаў, Саветаў дэпутатаў ці пры афармленні ў дзяржаўных установах дакументаў на ўзнагароджанне. Як правіла, па-беларуску афармляюцца дакументы, звязаныя з выбарамі. Па-беларуску могуць выдавацца дакументы ЗАГС ці нават быць праведзена ўрачыстая рэгістрацыя шлюбу.

У Міністэрстве сувязі і інфармацыі па-беларуску складаюцца толькі камандзіровачныя дакументы і дакументы аб узнагароджванні. Міністэрства юстыцыі паведамляе, што працэнт беларускамоўных дакументаў у іх невялікі, але вядзецца работа па яго павелічэнні. Толькі 0,9% займае справаводства па-беларуску ў Дзяржаўным камітэце па стандартызацыі. У Дзяржаўным камітэце па маёмасці беларускамоўнага справаводства няма наогул. Паводле звестак Дзяржаўнага мытнага камітэта, справаводства па-беларуску ў камітэце прадстаўлена мінімальна. Міністэрства па падатках і зборах паведаміла, што 65 міжнародных пагадненняў было прынята па-беларуску. Крыху лепш сітуацыя выглядае ў Нацыянальным статыстычным камітэце — яго пастановы выдаюцца па-беларуску, а 84% форм дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці таксама складзеныя на беларускай мове. Па звестках Дзяржаўнага памежнага камітэта, яго міжнародныя дамовы складаюцца выключна па-беларуску. У Савеце Міністраў 13% яго пастаноў прымаюцца на беларускай мове, таксама па-беларуску прымаецца 64% распараджэнняў прэм'ер-міністра Беларусі.

Іншыя, не пералічаныя вышэй міністэрствы і дзяржаўныя камітэты інфармацыю пра выкарыстанне беларускай мовы ў справаводстве нам прадставіць адмовіліся, што дае падставы меркаваць пра абсалютную адсутнасць у іх справаводстве беларускай мовы. Напрыклад, супрацоўнік Пастаўскага вайсковага камісарыяту беспадстаўна паведаміў, што беларуская мова непрыдатная для стварэння сакрэтных вайсковых дакументаў.

Толькі разам мы зможам выправіць гэту ганебную сітуацыю не толькі ў справаводстве, але і ва ўсёй Беларусі. Сачыце за нашай калонкай, паведамляйце нам на электронную скрыню umovymovy@gmail.com пра парушэнні моўных правоў або пра вашы дасягненні ў прасоўванні беларускай мовы.

Янка Купала казаў: «Пакуль жыве мова, жыве народ». Таму не будзем памяркоўнымі, бо памяркоўнасць — гэта шлях да дэградацыі і знішчэння. Абаронім і захаваем родную беларускую мову разам!

У гэтай калонцы мы ў кожным нумары будзем распавядаць, што ж сапраўды адбылося з беларускай мовай за тыдзень, дзе яе стала болей, дзе меней, каму падзякаваць, а каму выказаць сваю ганьбу. Тут будуць факты і аналітыка, карысныя парады і метады, як пашыраць беларускую мову кожны дзень сваімі сіламі. Мы верым, што гэтая калонка будзе запатрабаванай вамі, але і кожны з вас зможа ўплываць на яе змест.

Дасылайце на электронную скрыню umovymovy@gmail.com пытанні, датычныя беларускай мовы і моўных правоў, якія вас хваляюць, прыклады з жыцця, дзе вашы правы былі парушаныя, або гісторыі поспеху, дзе вы дамагліся, каб беларускай мовы стала болей. Мы будзем апрацоўваць вашы лісты — і самыя цікавыя прыклады абавязкова з'явяцца ў нашай калонцы, каб кожны ведаў, што ад яго слоў і справаў залежыць, ці будзе жыць, пашырацца і ўжывацца беларуская мова.

Аўтары калонкі — Ігар Случак, юрыст, магістр юрыдычных навук (абараніў дыпломную работу па тэме «Канстытуцыйна-прававыя асновы дзяржаўнага білінгвізму» і магістарскую дысертацыю па тэме «Рэалізацыя дзяржаўнай моўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь») і Аліна Нагорная, паліттэхнолаг, аўтарка дапаможніка па абароне моўных правоў «Абаронім мову!».

# Дасябраваліся да суда

Павел КІРЫЛАЎ

**Канфлікт здарыўся праз грошы — у прыватнасці, праз Гарлыкскі горна-абагачальны камбінат, які беларускі бок будаваў у туркменскай пустэльні.**

Камбінат урачыста адкрывалі ў 2017 годзе Аляксандр Лукашэнка ды Гурбангулы Бердымухамедаў. Але канкурэнт нашага «Беларуськалія» так і не запрацаваў так, як належыць. У выніку Ашгабат звярнуўся са сваімі прэтэнзіямі ў міжнародны суд.

Радовішча калійных соляў было разведанае каля туркменскага мястэчка Гарлык ля афганскай мяжы яшчэ за савецкім часам у 1960-я гады. Але тады не было тэхналогіяў для ажыццяўлення праекта па іх здабычы. Зважаючы на рост коштаў на калійныя ўгнаенні, туркменскія ўлады пастанавілі ўвайсці на гэты рынак. З прапановай пабудаваць горна-абагачальны камбінат Туркменістан звярнуўся да нашай краіны — аднаго з сусветных лідараў у гэтай галіне. Па сутнасці, да канкурэнта ў вытворчасці і экспарце калію.

Дабрацца да карысных выкапняў у пустыні было няпроста праз мясцовыя геалагічныя і прыродныя ўмовы. Туркмены было паспрабавалі бурыць свідравіны самі, але ў выніку звярнуліся да беларусаў. Дзяржаўны канцэрн «Туркменхімія» і «Белгархімпрам» у 2010 годзе падпісалі дамову на будаўніцтва камбінату «пад ключ». Кошт кантракту склаў 1 мільярд долараў, а запланаваная магутнасць — 1,4 мільёна тонаў калійнай прадукцыі на год.

Здача камбіната з больш як сотняй аб'ектаў — ад уласна шахтаў болей як 300 метраў глыбінёй і перапрацоўчай фабрыкі да адміністрацыйных будынкаў — была запланаваная на 2015 год.

Але справа замарудзілася, Ашгабат і Мінск абвінавацілі адзін аднаго ў невыкананні дамоўных абавязальніцтваў. У выніку запуск Гарлыкскага горна-абагачальнага камбіната перасунулі на 2017 год. Аднак калі надышоў час, выявілася, што па-ранейшаму пачаць працаваць на добры лад камбінат не можа. Але бакі вырашылі зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні — і адкрылі яго пры ўдзеле кіраўнікоў дзвюх краінаў. А праблемы з недаробкамі дамовіліся вырашаць пазней.

Час цягнуўся. Беларусь адмовілася будаваць Туркменістану (хаця гэта меркавалася) другі падобны камбінат. Бакі абмяняліся прэтэнзіямі наконт узвядзення Гарлыкскага, якія ў выніку пачалі агучваць ужо асабіста Лукашэнка і Бердымухамедаў.

У лістападзе 2018 года Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Да гэтага часу не атрыманыя грошы за будаўніцтва Гарлыкскага горна-абагачальнага камбіната. Я чакаю рашэння гэтага пытання». І дадаў, што, калі гаворка вядзецца пра валютную выручку, то «працаваць сабе ў страты, гадамі чакаючы разлікаў, недапушчальна».

У сваю чаргу, Гурбангулы Бердымухамедаў у тым самым месяцы заявіў, што камбінат у Гарлыку так і не выведзены на праектную магутнасць, і загадаў рыхтаваць прэтэнзійныя дакументы ў міжнародны арбітраж.

Што днямі і было зроблена. Як паведамляе туркменскае інтэрнэт-выданне «Гундагар», калі правалілі нават падоўжаны (аж на 2 гады і 2 месяцы) тэрмін здачы камбіната, «урад Рэспублікі Беларусь пісьмова звярнуўся ў Туркменістан з просьбай прыняць завод 31 сакавіка 2017 года, а ўсё недабудаванае і недапастаўленае яны нібыта зробяць цягам бягучага года ў рамках дадатковага пагаднення, дзе беларускім бокам будуць ажыццёўленыя і скончаныя так званыя «рэшткавыя абавязацельствы». Гаворка вялася пра 3–4 месяцы паводле адмысловага графіку.

Але пасля падпісання акту прыёмкі ўвядзення Гарлыкскага комплексу ў эксплуатацыю беларусы, маўляў, практычна нічога не зрабілі для заканчэння патрэбных працаў — пачынаючы ад вентыляцыі, а таксама не паставілі абсталяванне, якога неставала.

Вынік: «Комплекс да гэтага часу не адпавядае ўмовам кантракту, заяўленая падрадчыкам магутнасць вытворчасці прадукцыі ў першы год 350 тысяч тон не дасягнутая нават на 5%, і туркменскі бок нясе значныя страты».

Таму канцэрн «Туркменхімія» выйшаў з адпаведным пазовам у Арбітражны інстытут пры Гандлёвай палаце Стакгольму і запатрабаваў кампенсацыі шкоды. Што праўда, лічбы не называюцца.

Каментараў з беларускага боку пакуль няма, але раней Мінск наракаў на нявыплату заробкаў беларускім рабочым, якія ўзводзілі Гарлыкскі камбінат, і наогул на затрымку фінансавання праекта. Таксама выказваліся прэтэнзіі, што Туркменістан абмежаваў колькасць беларусаў, занятых на будаўніцтве камбінату, у выніку нашым адмыслоўцам даводзілася выпраўляць шмат памылак туркменскіх калегаў.

З аднаго боку, «Белгархімпрам» працаваў сабе ў страты, а з другога — «Беларуськалій» мае пакуль што выйгрышны ў часе і, адпаведна, экспартных даходах бонус ад нявыхаду туркменскага канкурэнта на рынак калійных угнаенняў.

# Катаванне лекаваннем

Зінаіда ЦІМОШАК

**Каб зразумець, што з сістэмай аховы здароўя нешта не так, трэба прыйсці раніцай у слуцкую паліклініку.**

Памяшканне ля рэгістратуры запоўнена хворымі, якія мараць атрымаць талон да доктара. Але не ўсім гэта ўдаецца, нават адстаяўшы ў доўгай чарзе. Талонаў катастрафічна не хапае.

Асабліва цяжка трапіць на прыёмы да вузкіх спецыялістаў. Суседка па чарзе да тэрапеўта паскардзілася, што ніяк не можа запісацца да афтальмолага. Я вырашыла праверыць асабіста. Сапраўды, 12 сакавіка запісацца да афтальмолага нельга было ні на сакавік, ні на красавік. Супрацоўніца рэгістратуры прапанавала тэлефанаваць у пачатку красавіка, каб даведацца, калі будзе запіс на май.

Для таго, каб палегчыць пацыентам доступ да дактароў, на сайце паліклінікі можна запісацца на прыём у электронным выглядзе. Гэта — тэарэтычна. На практыцы над датамі дзён прыёму дактароў часцей за ўсё ўсплывае адзін і той жа запіс: *«В настоящее время нет талонов, доступных для заказа через интернет. Звоните в регистратуру для уточнения возможности заказов этих талонов»*.

Асабліва шмат нараканняў сярод людзей на тое, што расце колькасць платных паслуг. Каб не пакутаваць у чэргах, трэба плаціць за УГД, біяхімічныя аналізы, электракардыяграмы і іншае.

Валянціна Пятроўна распавяла пра свайго мужа, які перанёс інсульт. Яна рэкамендуе людзям падрыхтаваць нямала грошай для таго, каб некалькі тыдняў палячыцца ў неўралагічным аддзяленні. Трэба заплаціць за дарагія лекі, за памперсы, за хуткую дапамогу, якая адвязе ляжачага хворага з бальніцы дадому.

Зразумела, што наракаць на паліклініку і бальніцу за гэта нельга, бо такія ўмовы для лячэння нашага небагатага насельніцтва існуюць ва ўсіх лячэбных установах і створаныя самой дзяржавай.

Адзін з дактароў слуцкай паліклінікі скардзіцца на дэфіцыт спецыялістаў, загружанасць медыкаў і адсутнасць матывацыі.

— Адчуванне, што я працую ля канвеера, і ў мяне не хапае рук, а пацыенты ўсё плывуць і плывуць. Дактароў у паліклініцы не хапае, а хворых з кожным годам становіцца болей, — гаворыць медык. — Вяртаюся з працы ледзь жывы. Шмат прыходзіць сталага веку людзей, але я не згодны з тым, што яны ходзяць у паліклініку, як у «пенсіянерскі клуб». Не надта многа аматараў знойдзецца сярод хворых людзей без прычыны стаяць у такіх доўгіх чэргах і вузкіх калідорах дзеля таго, каб на некалькі хвілін трапіць да доктара.

І дактары, і хворыя людзі чакаюць, калі размовы ў вярхах пра паляпшэнне стану медыцыны ўрэшце ўвасобяцца ў годныя заробкі медыкаў, сучаснае дыягнастычнае абсталяванне і лячэнне без жудасных чэргаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Калі будуць справы?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калі я слухаю прамовы адказных беларускіх чыноўнікаў, мне хочацца пляскаць у ладкі — аж да крыві. Вось толькі ўвесь час разумею: вынікаў няма!**



www.bnr.bg

«Крэдыт даверу не можа быць шматгадовым ва ўмовах невысокіх даходаў фізічных асоб і пры наяўнасці цяжкасцяў з эфектыўным працаўладкаваннем насельніцтва», — заявіў старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч газеце «Звязда».

Сярод асноўных праблем грамадства, на яго думку, — малыя заробкі, лішнія кадры на прадпрыемствах, спецыялісты, што з'язджаюць на працу за мяжу, і рост колькасці бедных сем'яў. Паводле Мясніковіча, дзве трацiны сем'яў, якія маюць дзяцей, з'яўляюцца малазабяспечанымі.

Толькі ўявіце: дзве трацiны сем'яў з дзецьмі — малазабяспечаныя! Пра ўсё астатняе ўжо можна і не казаць. Дзве трацiны сем'яў могуць дазволіць сваім дзецям толькі самы мінімум неабходнага. Пра які дабрабыт і сацыяльную дзяржаву можна казаць?

Чаго ж тады здзіўляцца, што падае нараджальнасць. «У параўнанні з 2016 годам колькасць дзяцей, народжаных першымі, скарацілася амаль на 24 працэнты, народжаных другімі — на 21 працэнт, трэцімі — на 13 працэнтаў. У цэлым я прыводзіў дадзеныя, мінус 20 працэнтаў», — клапоціцца спадар Мясніковіч пра дэмаграфію.

Я вось згадваю біяграфію Міхаіла Уладзіміравіча Мясніковіча. І што цікава, ужо амаль 30 гадоў ён не вылазіць з «вертыкалі ўлады». Ад 1990 года Мясніковіч — намеснік старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржкамітэта БССР па эканоміцы і планаванні. З 1991 па 1994 — першы намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Пасля — намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, памочнік кіраўніка Беларусі па асобных даручэннях. Потым — старшыня прэзідыума Нацыянальнай Акадэміі навук. З 28 снежня 2010 года па 27 снежня 2014 года — прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь. З 16 студзеня 2015 года — старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу.

Спадарства, хто адказны за катастрафічную дэмаграфію? Хто адказны за душавыя даходы? Чаму дзве трацiны сем'яў з дзецьмі — малазабяспечаныя, а Мясніковіч, які павінен быў выпраўляць гэтую сітуацыю 30 гадоў, маючы на гэта ўсе паўнамоцтвы і рэгаліі, папросту канстатуе факт? А можа адкажа іншы вертыкальшчык, які ўжо 25 гадоў пры ўладзе?

На фоне той катастрофы, што агучыў Мясніковіч, вельмі важная і цікавая тэма — тэма інфармацыйнай бяспекі Беларусі, — неяк губляецца. Але варта згадаць і пра яе. Канцэпцыя інфармацыйнай бяспекі Беларусі абмяркоўвалася 12 сакавіка на нарадзе ў кіраўніка дзяржавы. У ёй багата карысных рэчаў, а афіцыйна яе тэкст, як мяркуецца, будзе апублікаваны на наступным тыдні. Неафіцыйна ж яго ўжо можна спампаваць на розных сайтах і тэлеграм-каналах.

«Вітаем вас у IT-краіне, дзе канцэпцыя інфармацыйнай бяспекі, што абмяркоўвалася ці не на сакрэтным пасяджэнні, бесперашкодна гуляе па інтэрнэце!» — гэтым лозунгам трэба сустракаць турыстаў у аэрапорце.

У той канцэпцыі шмат цікавага. Напрыклад, «інфармацыйны суверэнітэт». Хацелася б даведацца больш падрабязна, якім чынам мы будзем яго дасягаць. Бо, паводле нядаўняга даследавання Беларускай асацыяцыі журналістаў, беларускія дзяржаўныя тэлеканалы транслююць расійскі кантэнт і, адпаведна, расійскую прапаганду. У «галоўнай беларускай газеце» за маніторынгавы тэрмін БАЖ адзначыла: адзін матэрыял у кожным нумары меў прарасійскі кантэнт. Аўтары даследавання нават задаліся пытаннем: «На якую дзяржаву працуюць беларускія дзяржаўныя СМІ, што фінансуюцца нашымі падаткамі?»

Пакуль дзяржаўныя СМІ знаходзяцца ў чужой інфармацыйнай прасторы — пра якую «інфармацыйную бяспеку» можа ісці размова ўвогуле?

Намеснік дзяржсакратара Савета Бяспекі Беларусі Уладзімір Арчакоў у каментары БелаПАН адзначыў, што распрацоўкай канцэпцыі займалася міжведамасная камісія пры Савеце бяспекі, у склад якой увайшлі прадстаўнікі розных міністэрстваў і ведамстваў, а таксама Адміністрацыі прэзідэнта, Нацыянальнай акадэміі навук, Палаты прадстаўнікоў, эксперты. І што, дарэчы, у канцэпцыі няма падзелу СМІ на дзяржаўныя і недзяржаўныя, яны ўсе вызначаюцца як «нацыянальныя».

Ці значыць гэта, што цяпер «нацыянальны» TUT.BY можа атрымаць дзяржаўнае фінансаванне і сплаціць за кошт дзяржаўнага фінансавання штраф Золатавай, які «імем Рэспублікі Беларусь» ёй выдаў дзяржаўны суд?

У гэтым рэчышчы толькі адзін абзац з усёй канцэпцыі заслугоўвае ўвагі. «Беларуская мова, нароўні з канстытуцыйна замацаваным двухмоўем, спрыяе падвышэнню нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства і ўмацаванню яго духоўнасці. Пашырэнне сацыяльных функцый і камунікатыўных магчымасцяў беларускай мовы, яе паўнавартаснае і ўсебаковае развіццё разам з іншымі элементамі нацыянальнай культуры выступаюць гарантам гуманітарнай бяспекі дзяржавы».

Прывітанне, спадарства! Прыехалі! Мы пра гэта кажам не адзін дзясятак гадоў! Што мова — не толькі «апасродкаваны» інструмент, але складнік бяспекі. Што не можа быць, напрыклад, «рускага міру» ў беларускамоўным асяроддзі. Няўжо нас пачулі?

Хіба хтосьці з чыноўнікаў пачаў размаўляць «на роднай мове» пасля канцэпцыі? Хто ж увасабляе інфармацыйную бяспеку не на словах, а на справе? Я скажу, хто: Таварыства беларускай мовы, «Кінаконг» з перакладам сусветных блакбастараў на беларускую, «Мова нанова».

Так што казаць багата можна. І канцэпцыяў напісаць безліч. А зрабіць што здолееце? Як з канцэпцыяй інфармацыйнай бяспекі, з яе «мовай» і «гістарычнасцю» злучыць забарону святкавання 101-х угодкаў БНР у цэнтры Мінска?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Віталь Казак



**Брэсцкі актывіст быў аштрафаваны беларускім судом за... памінанне ахвяраў нацызму!**

Каля будоўлі «Прыбужскага кварталу» ў Брэсце нядаўна былі выяўленыя парэшткі соцень расстраляных у часы акупацыі яўрэяў. Да гэтага месца Віталь Казак прынёс кветкі, плакат з надпісам "Вечная памяць" і здымкі жыхароў, забітых у вайну. На месцы былі камунальнікі, якія і выклікалі на Казака міліцыю.

510 рублёў штрафу (20 базавых велічыняў) Віталь Казак атрымаў за «размяшчэнне інфармацыйных матэрыялаў не рэкламнага характару, а менавіта фотаздымкаў людзей, у месцы, не вызначаным мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі для іх размяшчэння». Гэтым Казак парушыў правілы добраўпарадкавання, таму і быў аштрафаваны паводле часткі 2 артыкулу 21.14 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях.

«Пра месцы пахаванняў ахвяраў нацызму я ведаю са словаў бабулі, мамы. Іх словы супадаюць з аповедамі іншых відавочцаў, — кажа Віталь Казак. — У мяне жывуць сябры ў цэнтры гораду, якія ведаюць, што ў скляпеннях дамоў ёсць косткі людзей, якіх не перапахавалі, што калектары цеплатрасаў пракладалі па гэтых костках, а потым упярэмешку з зямлёй засыпалі. Натуральна, такія хамскія адносіны да памяці людзей мяне і кранаюць... Я хачу, каб жыхарам гораду была аказаная пашана».

На рагу вуліцы Куйбышава і праспекту Машэрава ў Брэсце пачалося ўзвядзенне жылога комплексу «Прыбужскі квартал». Тут адкапалі парэшткі спачатку некалькіх чалавек, а потым пошукавы батальён выявіў не меней за 700 пахаванняў ахвяраў Брэсцкага гета, і пошукі працягваюцца.

## Лідзія Ярмошына



**Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ўпэўненая, што ў краіне дэградавалі палітычныя партыі.**

«Што да палітычнай структуры, я б сказала, што, на жаль, нашы партыі палітычныя дэградуюць. Паляпшэння няма. Наадварот — рэзкае пагаршэнне», — сказала Ярмошына ў інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь 24».

«З 15 існуючых партый толькі 8 удзельнічаюць у выбарах. Прычым больш актыўныя — апазіцыйныя, дый тое, гэта літаральна некалькі дзясяткаў палітыкаў. Паглядзіце ўсе ток-шоу, што ідуць па тэлебачанні, — гэта адны і тыя ж асобы», — сказала Ярмошына.

«Перабудову пачні з сябе!» — быў такі лозунг на сконе СССР. Калі глядзець на нашае тэлебачанне, то там толькі адна асоба. За 15 гадоў Міністэрства юстыцыі Беларусі не зарэгістравала ніводнай (!) палітычнай партыі, хаця спробаў былі — дзясяткі, пачынаючы ад Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і заканчваючы Партыяй свабоды і прагрэсу.

І тое, што «дэградавалі палітычныя партыі» (прычым, найбольш, паводле Ярмошынай, праўладныя, менш актыўныя за апазіцыйныя), — ці не азначае гэта, што проста ўмоваў для іх існавання і дзейнасці няма?

## Вікторыя Азаранка



**Нягледзячы на тое, што знакамітая беларуская тэнісістка прайграла Серэне Уільямс у другім крузе турніру ў Індыян-Уэлсе, яна не губляе аптымізму.**

«Серэна — самы складаны апанент, якому я калі-небудзь супрацьстаяла ў сваім жыцці, яна мой любімы супернік. Я адчуваю гэта. Я да гэтага часу гуляю, таму што атрымліваю асалоду ад выкліку. Калі гэта проста, то гэта сумна, і я не хачу гуляць. Але такія выклікі матывуюць мяне заўсёды. Серэна — адна з тых гульцоў, сустрэчы з якімі я чакаю», — сказала Азаранка.

«Заўсёды казала: Серэна падштурхоўвае мяне дэманстраваць лепшы тэніс. Быў добры, высакаякасны матч. На самай справе я не адчуваю, што прайграла. Хоць яна сапраўды перамагла. Яна заслужыла перамогу. Яна гуляла лепш у важных момантах. Адчувала гэта ў кожным гейме, калі было «больш», «роўна», «больш», «роўна». Яна лепш скарысталася шанцамі», — прыводзіць словы Азаранкі wtatennis.com.

# «Лукашэнка пра такіх, як я, не ведае»

Анастасія ЗЕЛЯНКОВА

**Шматдзетная маці Людміла Аўсянік з 2011 года безвынікова спрабуе дамагчыся атрымання ўласнага жылля. А цяпер можа пазбавіцца і інтэрната.**

З Людмілай я пазнаёмілася абсалютна выпадкова. Убачыла яе ў катэджы ў сваякоў, да якіх мы прыехалі адзначаць нейкае свята. Гаспадыня дома патлумачыла, што сяброўка параіла ёй наняць Людмілу дапамагчы прыгатавацца да прыходу гасцей.



Жанчына мне падалася знаёмай. Калі ж сваячка распавяла, што Людміла жыве ў інтэрнаце ў Смаргоні і адна выхоўвае пецярых дзяцей пасля смерці мужа, усё стала на свае месцы. Людміла Аўсянік — тая самая шматдзетная маці, якая безвынікова спрабуе дамагчыся ад чыноўнікаў жылля і ва ўсіх кабінетах чуе з серыі: «Навошта ты столькі нараджала?»

Калі паслухаеш гісторыю Людмілы, пачынаеш разумець, наколькі твае праблемы нікчэмныя. Жанчына не п’е, не гуляе, гадуе дзяцей, а ўсё яе жыццё — гэта спроба вырвацца з замкнёнага кола галечы, у якім яна апынулася пасля смерці мужа і па волі дзяржавы. Людміла гатовая штодня матацца са Смаргоні ў Мінск, прыбіраць чужыя кватэры, мыць посуд, падмятаць вуліцы — абы зарабіць лішнюю капейку.

Здавалася, пасля таго, як пра Людмілу напісалі ў СМІ, мясцовыя ўлады паабяцалі ёй да ацяпляльнага сезона прадаставіць калі не новую кватэру, то хаця б арэнднае жыллё. Таму, калі Лукашэнка ў чарговы раз загаварыў пра падтрымку шматдзетных, я вырашыла набраць Людмілу, каб пацікавіцца, як вырашылася яе кватэрнае пытанне.

— Ніяк. Нам не далі нават арэндную кватэру, якую абяцалі, — ледзь не плакала ў слухаўку жанчына. — А зараз вось мне прыйшла папера, што хутка адключаць святло і ваду.

Вырашана было ехаць у Смаргонь, каб паглядзець, як выжывае шматдзетная маці, пра якую дзяржава, падобна, зусім забылася.

### Гэта ўжо палепшаныя ўмовы

Інтэрнат па вуліцы Маладзёжная, 22, у якім жыве сям’я, звонку выглядае як стандартны пяціпавярховік. Унутры ж — змрочныя калідоры, абшарпаныя дзверы...

Пакой Людмілы месціцца на першым паверсе побач з аварыйным выхадам. Пасля трагедыі ў Кемерава аварыйны выхад пастанавілі трымаць адкрытым, з-за чаго ў памяшканні Людмілы заўсёды холадна і шумна ад грукату дзвярэй, якімі жыхары пачалі карыстацца як асноўнымі.

Вокны таксама мала ратуюць ад холаду. Рамы развальваюцца, са шчылін невыносна дзьме.

— Колькі разоў прасіла памяняць, кажуць: толькі за ваш кошт. Бывае, што і спім у вопратцы. А ўлетку, наадварот, спякота — вокны не адкрыць, таму што побач сметнік, смярдзіць немагчыма, ляцяць мухі.

У гэтым інтэрнаце сям’я Людмілы жыве чатыры гады. І, як аказалася, гэта ўжо палепшаныя ўмовы!

Раней жанчына з пяццю дзецьмі тулілася ў адным блоку на тры сям’і.

— Умовы былі жудаснымі. Унітаз, ванна на 15 чалавек. Побач жылі алкаголікі. Былі пастаянныя п’янкі, скандалы, — распавядае Людміла.

Пасля таго, як жанчына звярнулася ў райвыканкам, ёй прапанавалі новае жыллё ў інтэрнаце насупраць. Яна пагадзілася: інтэрнат кватэрнага тыпу: два пакоі, уласныя кухня, ванны пакой і прыбіральня. Праўда, у жалю вартым стане.

— Не было ні вады, ні электрычнасці — усё давялося рабіць самой. Залезла ў даўгі, спрабуючы адрамантаваць хоць бы неабходнае, каб можна было жыць з дзецьмі, — распавядае жанчына.

Прыкметы няскончанага рамонту можна назіраць і зараз. Праўда, калісьці новыя шпалеры ўжо трэба клеіць зноў — з-за вільгаці яны папросту не трымаюцца на сцяне. Лінолеум пакладзены проста на падлогу, а дзе-нідзе пад ім і зусім зямля.

— Казала свайму суседу-рыбаку, што можа накапаць у мяне чарвякоў, — горка ўсміхаецца жанчына і паказвае месца іх пражывання.

Тым не менш, у кватэры чыста. Відаць, што за жыллём Людміла сочыць. На пісьмовым стале ляжаць дзіцячыя малюнкі, грамата аднаго з сыноў за спартыўныя дасягненні.

— А прынясі свае медалі па лёгкай атлетыцы, — просіць яна ўжо дачку. Відаць, што жанчына ганарыцца поспехамі сваіх дзяцей.

### Навошта столькі нараджала?

Гэтае пытанне Людміла чуе ўвесь час. Прычым не толькі ад чыноўнікаў, якія пастаянна адфутбольваюць яе, але і ад звычайных людзей, з якімі даводзіцца сустракацца. І тым не менш гісторыя яе абсалютна звычайная і магла б здарыцца з любым.

Людміла выйшла замуж, калі ёй было 24 гады. Нарадзіла дваіх дзяцей. Аднак жыццё з першым мужам не склалася, і Людміла засталася адна. Неўзабаве яна сустрэла Сяргея. Пачалі разам жыць — нарадзіліся яшчэ дзеці. Увесь гэты час яны з мужам працавалі ў калгасе ў Ашмянскім раёне. Там жа арандавалі дом. Калі сям’я істотна разраслася, узялі льготны крэдыт, каб выкупіць гэты дом у пастаяннае карыстанне.

Аднак справы ў калгасе ішлі ўсё горш. Неўзабаве старшыню пасадзілі, і працы наогул не стала. Каб пракарміць дзяцей, муж Людмілы пачаў ездзіць на заробкі ў Расію. У адну з такіх паездак у яго здарыўся інфаркт — і ён памёр.

Так Людміла засталася адна з дзецьмі ў калгасе, дзе не было ні ўмоў, ні працы. Ды яшчэ і з крэдытам.

— Жыць у вёсцы стала невыносна. Школу закрылі, дзіцячы садок закрылі, працаваць няма дзе. Адной у хаце без мужчыны немагчыма: трэба і дровы насекчы, і ваду прынесці. А дапамагаць каму? Бацькі мае даўно памерлі, абодва ад раку: тата — калі мне было яшчэ 17 гадоў, мама — 15 гадоў таму.

У выніку Людміла вырашыла перабрацца ў горад. Знаёмы прапанаваў сумесны бізнес у Смаргоні. Там Людміла зняла кватэру і стала на чаргу як шматдзетная. Гэта было ў 2011 годзе.

Два гады жанчына круцілася як магла: ездзіла на заробкі, гандлявала прывезенымі шмоткамі. І чакала абяцанага жылля. Не дачакалася. У 2013-м дзяржава вырашыла трохі падкараціць чаргу тых, хто меў патрэбу ў жыллі. У выніку выйшаў указ, згодна з якім тыя, у каго мелася нерухомасць, не маглі больш прэтэндаваць на жыллё.

— І мяне знялі з чаргі, таму што быццам бы ў мяне ёсць дом, — распавядае Людміла. — І нікога не хвалявала, што жыць у тым доме немагчыма. Як і прадаць. Па-першае, хто яго купіць? Дом, пабудаваны яшчэ ў 1973 годзе ў забытым Богам калгасе, проста нікому не патрэбны. А па-другое, каб яго прадаць, мне трэба знайсці 1 тысячу долараў для выплаты крэдыту і пачакаць 5 гадоў для адчужэння маёмасці.

Але нават у выпадку чароўнага продажу павінен прайсці яшчэ час, каб сям’ю зноў паставілі на чаргу. Да таго часу амаль усе дзеці Людмілы будуць ужо паўналетнімі — гэта значыць аб сваім жыллі можна забыцца назаўжды.

— У райвыканкаме толькі разводзяць рукамі: «А што мы можам зрабіць? Такі закон!» — ледзь не плача ад несправядлівасці Людміла. — А дзе яны раней былі, калі я па закону мела права на жыллё? Тады што, закон не дзейнічаў? Усё, што яны змаглі мне прапанаваць за гэты час, — гэта інтэрнат і працу дворнікам ад Гаргазу.

Але і на гэта жанчына пагадзілася. Дапамогі па догляду за дзіцем да 3 гадоў і зарплаты дворніка ў 250 рублёў сяк-так хапала на ежу. Да таго часу бізнес, на які разлічвала Людміла, развалiўся (партнёр яшчэ і прыхапіў укладзеныя ёю грошы).

Калі ж і малодшаму сыну споўнілася тры гады і дапамогі не стала, давялося зноў думаць, як выжываць.

### І ўсюды гэтыя страшныя літары — СНС

Шукаць працу ў Смаргоні было бессэнсоўна. У горадзе знайсці месца, дзе плацяць больш за 300 рублёў, практычна немагчыма. Так Людміла зноў стала ездзіць на «закупы».

— Прыплачвала суседзям, знаёмым, каб прыглядалі за дзецьмі, пакуль я ў ад’ездзе. Ды і старэйшая дачка была ўжо дастаткова дарослая — 14 гадоў, — распавядае жанчына.

Вось тут дзяржава ў асобе органаў апекі і прыгадала пра Людмілу, палічыўшы, што яна сваімі ад’ездамі пакідае дзяцей у небяспецы.

— Аднойчы прыйшлі і забралі ўсіх пецярых. Але я ж не ў загуле была, не ў запоі, я зарабляла, каб іх пракарміць! Сама! Ні ў каго нічога не прасіла!

Людміла плача, успамінаючы, як стаяла на каленях у начальніка райвыканкама.

Дзяцей у выніку ёй вярнулі. Праўда, за месяц знаходжання ў прытулку выставілі рахунак — 1400 рублёў на цяперашнія грошы.

— Сын дагэтуль са страхам ідзе ў школу, думаючы, што яго зноў забяруць у прытулак. А малодшы, засынаючы, трымае мяне за руку і не хоча адпускаць, — распавядае Людміла. — Пры гэтым у мяне цяпер усюды стаяць гэтыя страшныя літары — СНС, сацыяльна небяспечнае становішча. Да лекара прыйдзеш — у картцы напісана, у любую ўстанову звернешся — кажуць, сям’я нядобранадзейная. І нікому нічога не дакажаш. Хоць у школе да нас ніякіх прэтэнзій. Там, наадварот, кажуць: «Вы — добрая маці, мы на вашым баку!»

Адчуваецца, што гэта вельмі моцна крыўдзіць Людмілу.

### Дагрукацца да Лукашэнкі

Нядаўна жанчыне прыйшло паведамленне пра тое, што калі яна не пагасіць запазычанасць за камунальныя паслугі і пеню, ёй адключаць электрычнасць і ваду, — у Людмілы сапраўды назапасіўся вялікі доўг.

На пытанне, чаму не плаціла, яна разводзіць рукамі:

— А за што я тады дзяцей б карміла?

У месяц на аплату гэтых 40 квадратаў у інтэрнаце з сумнеўнымі выгодамі неабходна аддаць... 230 рублёў! Спрабую высветліць, чаму так дорага? Адказвае, 130 рублёў — гэта толькі электраэнергія. Пры тым, што з электрапрыбораў у кватэры толькі лядоўня і электрапліта. Няма нават пральнай машыны(!), а тэлевізар даўно зламаны. Аднак у Людмілы не ўсталяваны лічыльнік.

— Я не паставіла яго, таму што райвыканкам паабяцаў мне вылучыць арэнднае жыллё. Думала, хутка пераеду, — кажа яна. — Але тую кватэру аддалі іншай жанчыне, хоць у яе адно дзіця. Крыўдна, у мяне да таго часу былі пагашаны ўсе даўгі, а цяпер вось зноў набегла. Ды няўжо б я не плаціла 80–100 рублёў «камуналкі»? Але як мне аддаць 230 рублёў на месяц, калі ў нас такія заробкі?

Людміла ездзіць у Мінск, прыбірае кватэры, катэджы (дзе мы, уласна, з ёй і пазнаёміліся), гатуе для заможных людзей — за такую працу ў сталіцы плацяць больш.

Заўважаю, што пры пад’ездзе да Смаргоні бачыла цалкам сабе прыстойныя катэджы, якія сведчаць пра пэўны дастатак людзей.

— Дык там нашы чыноўнікі жывуць. Думаю, зарплата ім дазваляе будавацца, — уздыхае Людміла. — А я, шматдзетная маці, вандрую па пустэльных інтэрнатах. Дзякуй, хоць добрыя людзі часам дапамагаюць.

Людміла распавяла, як аднойчы разгаварылася на рынку з адной прадпрымальніцай, і тая, даведаўшыся яе гісторыю, дапамагла з лячэннем сына ў бальніцы. Шматдзетная маці згадвае таксама служыцеляў Мінскага кафедральнага сабора, якія дапамагаюць ёй з рэчамі для дзяцей (просіць абавязкова напісаць і падзякаваць усім, хто не прайшоў міма яе бяды).

Жанчына таксама распавяла, што калі пра яе распавялі СМІ, выканкам вылучыў дапамогу. Толькі ўсё гэта пайшло на тое, каб раздаць даўгі — за камуналку, за прытулак.

А далей усё пачалося нанова:

— Пры гэтым мне пастаянна наракалі, што я адважылася скардзіцца. Пагражалі, што калі яшчэ раз адкрыю рот, зноў забяруць дзяцей, а мяне ўвогуле ўпякуць у вар’ятню.

Аднак сітуацыя настолькі крытычная, што маўчаць ужо немагчыма.

— Гэта нейкае замкнёнае кола, — уздыхае жанчына. — Крыўдна, бо нават шматдзетныя сем’і алкаголікаў, з якімі я жыла ў інтэрнаце, і тыя ўжо выехалі па сваіх кватэрах. А я не п’ю, працую з раніцы да ночы... Вунь Лукашэнка ўвесь час кажа, што дзяржава клапоціцца аб шматдзетных. А пра такіх, як я, напэўна, нават не чуў. Толькі як да яго дагрукацца?

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Беларускія заводы: банкрутаваць ці ратаваць?

Павел КІРЫЛАЎ

**Адна з праяваў заняпаду эканомікі Беларусі — колькасць прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў працэдурах банкруцтва. Сярод іх ёсць шэраг вядомых заводаў. Звальненне пагражае тысячам працаўнікоў. Што праўда, запушчаная працэдура банкруцтва не заўжды заканчваецца ліквідацыяй прадпрыемства.**


Фота www.banki-bankroty.ru

У Адзіным дзяржрэестры звестак аб банкруцтве — пераважна прыватныя фірмы. Іх больш за 90%. Такія бізнес-варункі, хапае і фірмаў-аднадзёнак. Аднак на пачатак гэтага года ў працэдурах банкруцтва (інакш — эканамічнай неплацежаздольнасці) знаходзяцца каля 200 дзяржаўных арганізацый. Яны з самых розных галінаў і рэгіёнаў. Усіх не пералічыць, таму згадаем некаторыя з іх: Драгічынскі трактарарамонтны завод, «Бабруйскжалезабетон», Слонімская птушкафабрыка, саўгас «Поразаўскі», «Мотавела», Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод, «Забудова», Целяханскі завод сталярных вырабаў, Пружанскі камбінат будаўнічых матэрыялаў, «Магілёўрыба», «Баранавічыдрэў»...

Банкруцтва — гэта прызнаная эканамічным судом устойлівая неплацежаздольнасць даўжніка (юрыдычнай асобы або індывідуальнага прадпрымальніка). Ініцыяваць гэтую працэдуру можа крэдытор або само прадпрыемства. Дарэчы, як тлумачаць у Міністэрстве эканомікі, працаўнікі арганізацыі-даўжніка, калі імі вінныя заробкі ці выходныя дапамогі, таксама з'яўляюцца крэдыторамі.

## У даўгах як у шаўках

Паводле Закона аб банкруцтве, падаць у эканамічны суд заяву аб запуску адпаведнай працэдуры можна пры некалькіх умовах. Першае: калі да прадпрыемства-даўжніка ўжываліся захады па спагнанні запазычанасцяў, але цягам трох месяцаў яно іх не сплаціла, і калі пры спробе спагнання выявілася, што няма маёмасці, дастатковай для задавальнення прад'яўленых патрабаванняў.

Другое: памер запазычанасцяў павінен складаць 100 і больш базавых велічынь, а калі даўжнік з'яўляецца горадаўтваральнай дзяржаўнай арганізацыяй, юрыдычнай асобай, акцыі (долі ў статутным фондзе) якой знаходзяцца ў кіраванні дзяржаўных органаў, то ў памеры 2500 і больш базавых велічынь. Трэцяе: крэдытор павінен валодаць дакументальна пацверджанымі звесткамі аб неплацежаздольнасці даўжніка, якая мае або набывае ўстойлівы характар.

Працэдура банкруцтва можа скончыцца ліквідацыяй прадпрыемства або санацыяй, каб зрабіць спробу аднавіць яго плацежаздольнасць. Калі параўнаць з медыцынай, то ў такім выпадку будзе нешта падобнае да правядзення сур'ёзнай аперацыі, а не адпраўленне ў морг. Іншае пытанне — ці дапаможа гэта занядбанаму заводу ці фірме? Таму, калі працаўнік чуе пра тое, што датычна яго прадпрыемства распачалі працэдуру банкруцтва, не варта адразу моцна перажываць, што заўтра акажашся без працы. Гэты працэс, як правіла, расцягваецца на год і болей, і ўсё можа скончыцца спробай эканамічнага аздараўлення.

Аднак вельмі верагодны і песімістычны сцэнар. Са свежых прыкладаў ліквідацыі можна згадаць судовае рашэнне ў лютым аб сконе Мінскага лакафарбавага завода, які быў заснаваны ў 1935 годзе і выпускаў лакі, фарбы, эмалі, грунтоўкі. Праз тэхналагічнае адставанне і менеджарскія памылкі завод папросту не вытрымаў канкурэнцыі. Запазычанасць склала 2 мільёны рублёў, актывы ж гэтага хімічнага прадпрыемства недастатковыя, каб іх прадаць для пагашэння даўгоў, — 1,8 мільёна. У выніку скрушна-іранічна выглядае фраза на сайце завода, што ён ёсць «прагрэсіўным прадпрыемствам у сваёй галіне». Ліквідацыйная вытворчасць датычна Мінскага лакафарбавага завода павінна завяршыцца 20 чэрвеня.

> **Неўзабаве будзе прыняты новы Закон аб банкруцтве, і Мінэканомікі хоча там прапісаць крытэры спынення неэфектыўнай санацыі. Каб дырэктары-халяўшчыкі не замарожвалі проста даўгі і не кіравалі па шмат гадоў за кошт іншых: калі не шукаюцца новыя рынкі збыту, не праводзіцца перапрафіляванне вытворчасці**

Тое самае можа пагражаць Мінскаму заводу ацяпляльнага абсталявання, вядомага як радыятарны завод. Заяву ў эканамічны суд падаў адзін з банкаў: даўгі завода — 26,5 мільёна рублёў. Зрэшты, у яго кіраўніцтве і Міністэрстве прамысловасці наважаныя давесці справу да санацыі і рэанімаваць завод. Тым болей, што тут працуюць амаль тысяча чалавек. Хаця многія жыхары Мінска на абшарах вуліц Кальварыйская — Скрыганава — Бірузова былі б радыя закрыццю радыятарнага. Яны даўно скардзяцца, што завод моцна чадзіць.

У працэдуры банкруцтва цяпер і МЗМК — Маладзечанскі завод металаканструкцыяў. Завод наогул працуе ўжо некалькі гадоў са стратамі. Хаця нядаўна выконваў вялікую замову — дах падчас рэканструкцыі мінскага стадыёна «Дынама». І наогул, гэта адзін з самых буйных у СНД вытворцаў вырабаў для будаўнічай галіны. На момант падачы дакументаў у суд крэдыторская запазычанасць складала больш за 30 мільёнаў рублёў, актывы пакрывалі іх толькі напалову.

МЗМК дакладна чакае санацыя. Усё ж гэта знакавае прадпрыемства, дзе працуюць 800 чалавек. Дый працэдуру банкруцтва ініцыяваў сам завод — звычайна дзеля санацыі так і робіцца. Хаця бываюць выпадкі крымінальнага самабанкрутавання, ці калі нейкае прадпрыемства банкрутуюць наўмысна, каб расчысціць рынак канкурэнтам. Так што працоўныя МЗМК, якія ў свой час, некалькі гадоў таму, ладзілі страйк праз праблемы з выплатай заробкаў, могуць не турбавацца: іх прадпрыемства закрывацца не будзе.

## Ідэалогія аптымізму

Праз тое, што працэдура банкруцтва гучыць трывожна, інфармацыя пра гэта сапраўды часта правакуе пярэпалах сярод працоўных і іх сем'яў. Тут ужо справа дырэктарату і ўладаў патлумачыць сітуацыю на пальцах. Народ, натуральна, супакоіць можна, але ж факт, што прадпрыемства ў даўгах, а эканоміка краіны агулам зусім не квітнее, нікуды не падзенецца. Дый дзе гарантыя, што санацыя дасць плён?

Падобную тлумачальную працу давялося рабіць пры канцы 2018 года на Гомельскім тлушчавым камбінаце, прычым дастаткова нервова. Мауляў, паводле гарвыканкамаўскай газеты «Гомельскія ведамасці», «проста напісаць, што прадпрыемства — банкрут, гэта моцны ўдар па ягоным іміджы, па працы людзей». Улады пераканаdebных, што «прадпрыемства можна падняць», а прыбылы на яго антыкрызісны кіраўнік мае досвед паспяховай санацыі — адраджэння Калінкавіцкага мэблевага камбінату. Перад працоўнымі калектывам выступіла нават старшыня эканамічнага суда Гомельскай вобласці, каб патлумачыць розніцу паміж банкруцтвам як непажаданай ліквідацыяй і меркаванай санацыяй.

ПагЛядзець, якія дзяржаўныя прадпрыемствы ў Адзіным дзяржрэестры звестак аб банкруцтве ліквідуюцца, то бок неўзабаве знікнуць, а якія праходзяць санацыю, то-бок маюць шанец эканамічна акрыяць, можна на Bankrot.gov.by. Для аптымізму зазначым, што калісьці праз працэдуру банкруцтва праходзілі даволі паспяховыя сёння Мінскі гадзіннікавы завод і Мінскі маргарынавы завод.

## Людзей-банкрутаў не будзе

Неўзабаве будзе прыняты новы Закон аб банкруцтве, і Мінэканомікі хоча там прапісаць крытэры спынення неэфектыўнай санацыі. Каб дырэктары-халяўшчыкі не замарожвалі проста даўгі і не кіравалі па шмат гадоў за кошт іншых: калі не шукаюцца новыя рынкі збыту, не праводзіцца перапрафіляванне вытворчасці і гэтак далей.

Верагодна, будзе ўведзены механізм, калі за даўгі крэдыторам можна будзе забіраць актывы (маёмасць, акцыі) «ляжачага» прадпрыемства. Цяпер такая змена ўласніка пры захаванні прадпрыемства магчымая толькі ў аграпрамысловым комплексе. Ёсць таксама ідэя прызначаць на занядбаныя прадпрыемствы антыкрызісных кіраўнікоў выпадковым чынам праз адмысловую праграму. Гэта забяспечыць незалежнасць іх дзейнасці. Дзякуючы ж развіццю электронных рэсурсаў плануецца скарціць час на розныя бюракратычныя захады.

А прапісаны заканадаўча механізм прагнозу на стан крызіснай неплацежаздольнасці дапаможа пачаць выратавальную санацыю своечасова. Цяпер, каб справа аб банкруцтве была адкрытая і разгледжаная, неабходна назапашваць неплацежаздольнасць чатыры кварталы. Але варта, каб суб'ект гаспадарання, прадбачачы фінансавае падзенне, мог добраахвотна ініцыяваць узбуджэнне справы ў эканамічным судзе як мага раней. Каб не назапашваць даўгі, не губляць каштоўных работнікаў, не займацца няпрофільнай дзейнасцю, кшталту здачы ў арэнду памяшканняў.

Абмяркоўвалася і ўвядзенне інстытуту банкруцтва фізічных асобаў: калі, паводле суду, чалавеку з такім статусам пакідаюць толькі самае мінімальна неабходнае з жылля, вопраткі і пэўную суму грошай, а ўсё астатняе спаганяецца-забіраецца на пагашэнне даўгоў. Але было вырашана, што гэта ў нас неактуальна. Тыя самыя банкі кажуць, што выпадкі, калі чалавек набірае крэдытаў і потым не можа іх выплаціць, не ёсць крытычнай масавай з'явай.


Фота www.ceur.ru



**Перспектывы прэзідэнцтва ў тыя гады скептычна ацэньвала пэўная частка насельніцтва. У студзені 1994 года адзін з мінскіх пенсіянераў пісаў Шушкевічу: «У нас в народе, к сожалению, живет холуйская психология вождизма, преклонение перед сильной рукой»**

# Канстытуцыя і непазбежнае прэзідэнцтва

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Чвэрць стагоддзя таму пасля доўгіх спрэчак, ваганняў і маніпуляцый у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь быў замацаваны прынцып моцнай прэзідэнцкай рэспублікі.**

З сакавіка 1994 года дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь паведамілі, што ў Вярхоўным Савеце Беларусі 12 склікання адбылося пайменнае галасаванне па асобных палажэннях праекта Канстытуцыі. У адпаведным імянным бюлетэні стаяла наступнае пытанне: «Ці прымаеце Вы главу 3 "Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь", главу 4 "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь" і раздзел V "Мясцовае кіраванне і самакіраванне"?».

Таксама паведамлялася, што галасаванне прайшло паспяхова і большасць дэпутатаў падтрымалі гэтыя палажэнні. Пры ўсёй сваёй важкасці пытанні Вярхоўнага Савета і мясцовага кіравання і самакіравання адышлі на другі план. Грамадская думка была сфакусаваная на адным: Беларусь стала прэзідэнцкай рэспублікай. Але чаму так адбылося, чаму парламентарыі пайшлі на такі незвычайны крок?

## Тры шляхі

Адзін з самых праблемных і вострых момантаў у палітычнай гісторыі Беларусі першай паловы 1990-х гадоў тычыўся распрацоўкі і прыняцця новай Канстытуцыі. Праца над праектам беларускага Асноўнага Закона стартавала летам 1990 года, калі была створана адпаведная Канстытуцыйная камісія, куды ўвайшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета 12 склікання і эсперты-юрысты.

Перад распрацоўшчыкамі праекта адразу паўстала шмат пытанняў (парламент, судовая сістэма, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, мова і інш.). Але ж, канешне, самае дыскусійнае было звязана з прэзідэнтам. Як сярод дэпутатаў і экспертаў, так і ў грамадстве сфармаваліся тры асноўныя падыходы наконт увядзення ў краіне прэзідэнцкай пасады.

Першыя былі цвёрда ўпэўненыя, што ў Беларусі немэтазгодна і нават небяспечна ўводзіць прэзідэнцкую пасаду. У якасці аргументаў яны прыводзілі нізкую палітычную культуру насельніцтва, адносна невялікую тэрыторыю краіны, сталае супрацьстаянне выканаўчай і заканадаўчай улады ў Расіі і ва Украіне і інш. Прыхільнікі такога падыходу лічылі, што для Беларусі ідэальная мадэль кіравання — Вярхоўны Савет на чале са старшынёй з пашыранымі паўнамоцтвамі.

Вось што, напрыклад, пісаў у Канстытуцыйную камісію ў лістападзе 1993 года народны дэпутат ад Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы **Мікалай Коваль:** *«Для нашей республики, границы которой можно увидеть с крыши Овального зала (месца пасяджэнняў сесій Вярхоўнага Савета ў Доме Урада. — **Аўт.**), председатель Верховного Совета может быть наделен всеми полномочиями. Примером может стать опыт близкого зарубежья, где ни в одной республике нет ни согласия, ни мира между президентом и Верховными Советами. Дележ власти — не разделка кабанчика»*.

Супраць увядзення пасады прэзідэнта выступалі камуністы і іх палітычныя прапаўнікі — дэпутаты парламенцкай апазіцыі БНФ.

Перспектывы прэзідэнцтва ў тыя гады скептычна ацэньвала пэўная частка насельніцтва, аб чым сведчаць шматлікія лісты на адрас беларускага кіраўніцтва і Канстытуцыйнай камісіі. У студзені 1994 года адзін з мінскіх пенсіянераў пісаў старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу: *«У нас в народе, к сожалению, живет холуйская психология вождизма, преклонение перед сильной рукой»*.

Прыхільнікаў другога падыходу ўмоўна можна назваць цэнтрыстамі. Яны выступалі за ўвядзенне пасады прэзідэнта, аднак з абмежаванымі паўнамоцтвамі, накшталт такой мадэлі, якая існавала ў ФРГ. У такім разе прэзідэнт лічыўся б толькі кіраўніком дзяржавы, а не выканаўчай улады, і ажыццяўляў бы толькі прадстаўнічыя функцыі (наданне чыноў і званняў, прадстаўленне краіны за мяжой і інш.). Такую ідэю падтрымліваў, напрыклад, **Станіслаў Шушкевіч**. З цягам часу гэта стала імпанаваць і парламенцкай апазіцыі БНФ.

Нарэшце, прыхільнікі трэцяга падыходу выступалі за ўвядзенне пасады прэзідэнта, які б быў адначасова кіраўніком і дзяржавы, і выканаўчай улады. Яны даказвалі, што толькі «моцны» прэзідэнт здолее вывесці краіну з крызісу, перамагчы злачыннасць і карупцыю. Напрыклад, **Дзмітрый Арцыменя,** старшыня Гродзенскага аблвыканкама (забіты 20 верасня 1993 года) на пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі 10 лістапада 1992 года выказаўся за амерыканскую мадэль прэзідэнцтва.

На тым жа пасяджэнні дэпутат **Віктар Ганчар** казаў наступнае: *«Мы развалим управление, это должен быть глава государства с жёсткими функциями. Давайте все-таки не уходить от обычаев нашего населения, менталитета. Мы жили столетиями в условиях жёсткой системы. Поэтому упаси нас Господь от того, что мы называем парламентской республикой. У нас её нет»*.

За ўвядзенне пасады прэзідэнта з пашыранымі паўнамоцтвамі выступалі дэпутаты Аляксандр Лукашэнка і Дзмітрый Булахаў. Вось што заўважыў Лукашэнка на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 22 чэрвеня 1990 года: *«Вопрос о власти решают коротко и чётко»*.

## Міф пра віцэ-прэзідэнта

У працэсе дыскусій вакол прэзідэнцкай пасады ўносіліся прапановы ўвесці пасаду віцэ-прэзідэнта. Іх ініцыятары былі супраць таго, каб прэзідэнта ў выніку немагчымасці выконваць яго паўнамоцтвы замяшчаў кіраўнік парламента.

Праўда, такія прапановы можна пералічыць па пальцах. У перыяд 1992–1993 гадоў прапановы наконт віцэ-прэзідэнта рабілі міністэрства юстыцыі, УУС Мінгарвыканкама і старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю Мечыслаў Грыб.

У сувязі з гэтым неабходна развеяць міф, запушчаны ў грамадскую думку беларускім кіраўніком. 2 кастрычніка 2010 года на прэс-канферэнцыі для журналістаў расійскіх СМІ Лукашэнка зрабіў ледзь не сенсацыйную заяву: нібыта ён падчас першых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў 1994 годзе прапанаваў тагачаснаму прэм'ер-міністру Вячаславу Кебічу ўвесці пасаду віцэ-прэзідэнта. Тады Кебіч, маўляў, становіцца прэзідэнтам, а ён, Лукашэнка — другім чалавекам у дзяржаве. Лукашэнка запэўніваў журналістаў, што Кебіч быццам бы спачатку згадзіўся, але потым адмовіўся.

Сведчанне беларускага кіраўніка не падмацаванае аніякім крыніцамі: ні архіўным матэрыялам, ні перыядычным друкам таго часу.

## Тры публікацыі

Усяго мелі месца тры афіцыйных публікацыі канстытуцыйнага праекта: снежань 1991 года, жнівень 1992 года і верасень 1993 года. Канстытуцыйныя праекты сведчылі пра сталае ваганне большасці дэпутацкага корпуса ў адносінах да прэзідэнцтва. Так, «снежаньскі праект» уводзіў інстытут «моцнага» прэзідэнта, які адначасова з'яўляўся кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады. Больш таго, прэзідэнт абвяшчаўся гарантам суверэнітэту, нацыянальнай бяспекі, тэрытарыяльнай цэласнасці краіны, правоў і свабодаў грамадзянаў. Пункт 1 артыкула 105 праекта надзяляў кіраўніка дзяржавы правам рабіць захады па ахове суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці правоў і свабодаў грамадзянаў.

А вось «жнівеньскі» праект адназначна замацаваў «слабага» прэзідэнта, які з гэтага часу з'яўляўся толькі кіраўніком дзяржавы. Палажэнне аб тым, што прэзідэнт прымае захады па ахове суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці правоў і свабодаў грамадзянаў, было выключана.

Аўтары «верасьнёўскага» праекта зноў вярнуліся да ідэі «моцнага» прэзідэнта, надзяліўшы яго істотнымі паўнамоцтвамі. Прэзідэнт станавіўся кіраўніком не толькі дзяржавы, але і выканаўчай улады. Была рэанімаваная норма аб захадах па ахове суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці правоў і свабодаў грамадзянаў. Прэзідэнт атрымліваў права ствараць і скасоў-



ІМЯННЫ БЮЛЕТЭНЬ № 310

для галасавання па асобных палажэннях праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

ЛУКАШЭНКА АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ

(Прозвішча, імя, імя па бацьку народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь)

Ці прымаеце Вы главу 3 «Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь», главу 4 «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь», раздзел V «Мясцовае кіраванне і самакіраванне»?

„ТАК" ~~„НЕ"~~

ЛУКАШЭНКА А.Р. (Прозвішча і ініцыялы)

(Асабісты подпіс)

Старшыня Падліковай камісіі — В. І. ГАНЧАР

Сакратар камісіі — М. П. СКАРЫНІН

Члены камісіі: Дз. П. БУЛАХАЎ, М. А. МАЧУЛЕНКА, Б. І. СУШКЕВІЧ

**Імянны бюлетэнь Аляксандра Лукашэнкі.** Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

ваць міністэрствы, ведамствы і іншыя органы кіравання. Пры прэзідэнце ствараўся ўрад — Кабінет міністраў.

З інстытутам прэзідэнцтва ўзнікалі і непазбежныя спадарожныя пытанні: мінімальны і лімітавы ўзрост прэзідэнта, неабходная колькасць подпісаў для вылучэння кандыдатам у прэзідэнты і да т.п.

### Спроба — не хвароба

Трэба адзначыць, што яшчэ летам 1991 года (шмат у чым у сувязі з масавымі выступамі насельніцтва супраць рэзкага павышэння коштаў) у Вярхоўным Савеце 12-га склікання мелі месца спробы заснаваць пасаду прэзідэнта. 21 мая 1991 года на адкрыцці 4-й сесіі старшыня парламенцкай камісіі па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцці самакіравання **Уладзімір Леўчык** выступіў за ўвядзенне пасады прэзідэнта.

У Вярхоўным Савеце з'явіліся прапановы (дэпутат Іван Каратчэня), каб прэзідэнт абіраўся на сесіі парламента (прыхільнікаў такога падыходу відавочна натхніў прыклад Гарбачова, які быў абраны прэзідэнтам на З'ездзе народных дэпутатаў). Аднак большасць дэпутатаў схілялася да думкі, што прэзідэнта трэба абіраць усенародна. 19 чэрвеня 1991 года за адпаведны артыкул 4 праекта закона «Аб прэзідэнце Беларускай ССР» прагаласавалі 189 дэпутатаў пры кворуме ў 173. А ідэю выбараў прэзідэнта на сесіі падтрымаў толькі 141 народны выбраннік.

Праўда, далей справа не пайшла. Успыхнуў жнівеньскі путч, а пасля яго падаўлення Вярхоўны Савет заняўся афармленнем незалежнасці Беларусі. Дэпутаты канчаткова схіліліся да думкі, што пасаду прэзідэнта трэба ўводзіць не асобным законам, а праз Канстытуцыю.

### 5 лютага 1993 года

Менавіта 5 лютага 1993 года было прынята прынцыповае рашэнне аб увядзенні пасады «моцнага» прэзідэнта як кіраўніка выканаўчай улады. Што ж адбылося?

У гэты дзень было пададзена некалькі прапаноў наконт прэзідэнцтва. Напрыклад, Канстытуцыйная камісія ўнесла свае варыянты:

1) Беларусь — парламенцкая рэспубліка, у якой уведзена пасада прэзідэнта, які не з'яўляецца кіраўніком выканаўчай улады;
2) Беларусь — прэзідэнцкая рэспубліка, у якой уведзена пасада прэзідэнта, які з'яўляецца кіраўніком дзяржавы;
3) Беларусь — прэзідэнцкая рэспубліка, у якой уведзена пасада прэзідэнта, які з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады.

Пры галасаванні першы варыянт набраў 23 галасы, другі — 67 і трэці — 136.

Прапаноўваліся і іншыя рашэнні, але яны не знаходзілі падтрымкі ў парламенцкай большасці. Напрыклад, за варыянт, паводле якога пасада прэзідэнта не ўводзіцца наогул, прагаласавалі 111 дэпутатаў.

Назіраючы такую няўзгодненасць калегаў, слова ўзяў дэпутат Віктар Ганчар. У сваім эмацыйным і палымяным выступе ён заклікаў дэпутатаў замацаваць палажэнне аб тым, што прэзідэнт — кіраўнік дзяржавы і выканаўчай улады. Ганчар запэўніваў дэпутатаў, што гэта ***«зусім не замацоўвае прэзідэнта як дыктатара»: «Праз юрыдычныя фармулёўкі, нарэшце, праз Канстытуцыйны Суд заўсёды можна будзе паставіць прэзідэнта на такую прыступку, калі ён будзе абмежаваны іншымі ўладамі»***. Прамова Ганчара сарвала апладысменты, а пры галасаванні гэтая фармулёўка набрала 190 галасоў.



Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб вітае Віктара Ганчара падчас паіменнага галасавання па асобных палажэннях праекта Канстытуцыі. Злева за сталом з акулярамі — Мікалай Скарынін. «Свабода», люты 1994 года

**У атмасферы вострых дыскусій Ганчар даказваў, што парушэнняў у галасаванні няма: яно не таемнае. Пазняк зачытаў зварот 40 дэпутатаў, у якім асуджалася галасаванне шляхам падачы імянных бюлетэняў. У заяве гаварылася, што такое галасаванне — спроба «нелегальна» ўвесці пасаду прэзідэнта**



3

2.

Спіс дэпутатаў, атрымаўшых і здаўшых імянныя бюлетэні для галасавання па асобных палажэннях праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь

| Дэпутат | Нумар акругі і бюлетэня | атрымаў: дата, час, подпіс | здаў: дата, час, подпіс |
|---|---|---|---|
| ПАПКОЎ Сяргей Пятровіч | Ø21 | | |
| СКАРЫНІН Мікалай Паўлавіч | Ø22 | 24.02.94 9.55 | 24.02.94 9.55 |
| МАРЫНІЧ Міхаіл Афанасьевіч | Ø23 | 24.02.94 10.13 | 24.02.94 12.30 |
| ГАЛУБОВІЧ Вольга Мікалаеўна | Ø24 | | |
| ГЕРАСІМЕНКА Аляксандр Міхайлавіч | Ø25 | 24.02.94 16.40 | 24.02.94 10.00 |
| КАЗЛОЎ Генадзь Іванавіч | Ø26 | 24.02.94 9.50 | 24.02.94 9.55 |
| МАЛАШКА Віталій Аляксеевіч | Ø30 | | |
| КАНАПЛЯ Яўген Фёдаравіч | Ø31 | 24.02.94 9.05 | 01.03.94 12.00 |
| ПАЎЛАЎ Валерый Уладзіміравіч | Ø32 | 24.02.94 12.41 | 24.02.94 16.00 |
| ТРУСАЎ Алег Анатольевіч | Ø33 | | |
| КУЗНЯЦОЎ Вячаслаў Мікалаевіч | Ø34 | 24.02.94 11.40 | 24.02.94 11.40 |
| ЗАБЛОЦКІ Уладзімір Мікалаевіч | Ø35 | 25.02.94 9.50 | |
| БЕЛЕНЬКІ Юрый Адамавіч | Ø36 | | |
| ЗДАНЕВІЧ Лявонцій Ульянавіч | Ø39 | | |

...шыня падліковай камісіі — В.І.Ганчар
...ратар падліковай камісіі — М.П.Скарынін
...ны падліковай камісіі — Дз.П.Булахаў, М.А.Мачуленка, Б.І.Сушкевіч

**Спісы дэпутатаў, якія атрымалі бюлетэні для паіменнага галасавання.** Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

### Правалы, правалы

Аднак з інстытутам прэзідэнцтва паўсталі цяжкасці. Так, глава аб прэзідэнце не была зацверджаная падчас паартыкульнага галасавання па праекце Канстытуцыі 25 мая 1993 года. Калі Шушкевіч паставіў на галасаванне фармулёўку пра тое, што прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады, «за» выказаліся толькі 127 дэпутатаў.

30 лістапада 1993 года падчас чарговага паартыкульнага абмеркавання за главу 4 «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь» прагаласавалі 219 дэпутатаў пры кворуме ў 231. Булахаў сумна вымавіў, што праблемы з прэзідэнцтвам адкідваюць усю канстытуцыйную працу на паўтара года назад.

Дэпутат **Анатоль Лябедзька** прапанаваў стварыць Пагаджальную камісію, чальцы якой павінны былі весці працу з тымі дэпутатамі, якія выступалі супраць інстытута прэзідэнцтва. 2 снежня 1993 года пастановай Вярхоўнага Савета была створана Пагаджальная камісія ў складзе звыш дзесяці дэпутатаў.

19 студзеня 1994 года кіраўнік рабочай групы Канстытуцыйнай камісіі **Васіль Шаладонаў** заявіў, што дзякуючы Пагаджальнай камісіі нібыта большасць дэпутатаў гатовыя разглядаць пытанне пра прэзідэнцтва. Аднак Шаладонава абверглі Лукашэнка і Трусаў, якія канстатавалі правал працы камісіі.

І яны мелі рацыю. Калі Шушкевіч паставіў на галасаванне назву главы 4 «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь», то вынік быў несуцяшальны: «за» прагаласавалі 209 дэпутатаў пры кворуме ў 231 голас.

### Цудоўнае вынаходніцтва

Прынцыпова іншы выхад са становішча прыдумала дэпутацкая група «Беларусь». Яе кіраўнік **Генадзь Казлоў** прапанаваў прагаласаваць па спрэчных палажэннях (у тым ліку і па прэзідэнцтве) праекта імяннымі бюлетэнямі на працягу некалькіх дзён. Пры гэтым Казлоў спаслаўся на досвед іспанскіх картэсаў і заявіў, што гэта падтрымліваецца Шаладонавым.

Станіслаў Шушкевіч таксама выказаўся ў падтрымку імяннога бюлетэня. Аднак Шушкевічу не было наканавана ўвасобіць такі план галасавання ў жыццё. 26 студзеня 1994 года яго большасцю дэпутацкіх галасоў адклікалі з пасады.

Новы старшыня Вярхоўнага Савета **Мечыслаў Грыб** хацеў усё ж давесці канстытуцыйны працэс да лагічнага завяршэння, а таму актыўна лабіяваў імянны бюлетэнь. 22 лютага 1994 года выйшла адпаведная парламенцкая пастанова, згодна з якой найбольш спрэчныя палажэнні праекта Асноўнага Закона было мэтазгодна правесці шляхам падачы імянных бюлетэняў на працягу трох рабочых дзён з моманту абвяшчэння галасавання. У гэты ж дзень была сфармавана Падліковая камісія на чале з Віктарам Ганчаром. Туды ўвайшлі Дзмітрый Булахаў, Міхаіл Мачуленка, Мікалай Скарынін і Баляслаў Сушкевіч.

Як і чакалася, у бюлетэнь для імяннога галасавання было ўнесена пытанне: «Ці прымаеце Вы главу 4 "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь?"». Акрамя таго, бюлетэнь утрымліваў пытанні і па іншых найбольш спрэчных палажэннях праекта: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і мясцовае кіраванне і самакіраванне.

Імяннае галасаванне павінна было адбыцца 24, 25 лютага і 1 сакавіка 1994 года (26 і 27 былі выхаднымі днямі, а ў панядзелак, 28 лютага выдача імянных бюлетэняў не ажыццяўлялася). Іншымі словамі, дэпутат мог узяць імянны бюлетэнь 24 лютага і здаць яго 1 сакавіка. То-бок імяннае галасаванне расцягнулася амаль на тыдзень. Гэта стварала дадатковыя магчымасці прыхільнікам інстытута прэзідэнцтва для псіхалагічнай апрацоўкі дэпутатаў. Час выдачы і здачы бюлетэняў фіксаваўся максімальна дакладна.

23 лютага 1994 года ў атмасферы вострых дыскусій Ганчар даказваў, што ніякіх парушэнняў у такім галасаванні няма: яно не таемнае, а імяннае, для якога не абавязковая бесперапыннасць. Тым не менш, 24 лютага 1994 года **Зянон Пазняк** зачытаў зварот сарака дэпутатаў, у якім асуджалася галасаванне шляхам падачы імянных бюлетэняў. У заяве гаварылася, што такое галасаванне — спроба «нелегальна» ўвесці пасаду прэзідэнта.

Зараз, ужо будучы ў адстаўцы, супраць імяннога галасавання выступіў Шушкевіч. У адказ Лукашэнка заклікаў яго *«очнуться, так как весна уже на улице»*.

Прыхільнікі ўвядзення інстытута прэзідэнцтва максімальна мабілізавалі сілы. Яны звярталіся да тых дэпутатаў, якія ўжо, як, напрыклад, лётчык-касманаўт Уладзімір Кавалёнак, даўно не прымалі ўдзел у працы Вярхоўнага Савета.

2 сакавіка 1994 года Віктар Ганчар агучыў вынікі галасавання. З 346 абраных дэпутатаў 296 атрымалі бюлетэні. У выбарчай скрыні апынуліся 288 бюлетэняў, з якіх 266 былі «за», 16 — «супраць», 6 бюлетэняў былі зафіксаваныя як несапраўдныя. Незапатрабаванымі апынуліся 50 бюлетэняў. У галасаванні не ўдзельнічала парламенцкая апазіцыя БНФ, прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ) і дэпутацкая група камуністаў пад кіраўніцтвам Міхаіла Качана.

Такім чынам, пасада прэзідэнта была заснавана. Да канчатковага прыняцця Канстытуцыі, якая адкрые шлях Лукашэнку да шматгадовай улады, заставаліся лічаныя дні.

15 сакавіка 2019 | № 10 (621) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Цара не будзе

У Тбіліскім гарадскім судзе пачалі высвятляць адносіны прадстаўнікі грузінскай царскай фаміліі — Ганна Баграціён-Грузінская і Давід Баграціён-Мухранэлі, якія да 2013-га былі мужам і жонкай. Цяпер Ганна абвінавачвае былога мужа ў тым, што ён выдае сябе за цара, і тым самым «перакручвае гісторыю». Адказчык не згаджаецца з пазовам і сцвярджае, што сапраўдным нашчадкам грузінскіх цароў з'яўляецца ён. Суд можа паўплываць на перспектывы рэстаўрацыі манархіі ў Грузіі. Нагадаем, што ідэя аднаўлення манархіі ў канстытуцыйнай форме актыўна абмяркоўвалася з 2008 года, калі яе прапанаваў Каталікос — Патрыярх усяе Грузіі. З гэтым праектам і звязвалі ў 2009-м вяселле Ганны і Давіда — нашчадкаў дзвюх галін грузінскага манархічнага роду. Аднак неўзабаве іх шлюб распаўся, а цяперашні працэс з прысмакам камедыі можа цалкам дыскрэдытаваць і пахаваць манархічны праект. Хаця, магчыма, для некаторых тут ёсць пэўны пазітыў. У камандзе Саакашвілі ў свой час сцвярджалі, што манархістаў заўжды падтрымлівала Масква, якая хацела за іх кошт аднавіць свае пазіцыі ў Грузіі.

**Паводле грузінскай прэсы**

### АЛЖЫР. Разбурэнне Еўропы?

У французскай прэсе пачалася дыскусія наконт магчымых наступстваў цяперашніх пратэстаў у Алжыры. Ужо трэці тыдзень краіна ахопленая хваляваннямі, удзельнікі якіх патрабуюць ад прэзідэнта Абдэль Азіза Бутэфлікі адмовіцца ад балаціроўкі на пяты тэрмін. 11 сакавіка Бутэфліка нечакана заявіў, што не будзе балатавацца. Адначасова стала вядома, што выбары прэзідэнта пераносяцца з красавіка на невядомы тэрмін, таму наўрад ці алжырцы супакояцца. Наступствы хваляванняў, як пішуць у прэсе, могуць быць сур'ёзнымі, асабліва для Еўропы. Па-першае, менавіта ў ЕС у выпадку хаосу накіруюцца алжырскія мігранты. Новая хваля ўцекачоў узмоцніць пазіцыі правых партый і антыеўрапейскі вектар. Па-другое, крызіс у Алжыры адаб'ецца на эканамічных адносінах з Еўропай. Не выключаюць у тым ліку і праблем у энергетычным сектары, паколькі Алжыр — адзін з вядучых экспарцёраў газу. Нарэшце, крах рэжыму Бутэфлікі адкрывае маршрут у Еўропу для ісламскіх тэрарыстаў з Чаду, Нігерыі, Малі і іншых краін. Аргументы сур'ёзныя, аднак не выключана, што за гэтымі артыкуламі стаіць алжырская адміністрацыя. Атачэнню Бутэфлікі трэба напалохаць Еўропу і дамагчыся ад яе выразнага сігналу падтрымкі.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. Аддайце частку Беларусі

Некаторыя лічаць, што Украіна можа выставіць тэрытарыяльныя прэтэнзіі Беларусі, калі на ўкраінскіх прэзідэнцкіх выбарах пераможа Уладзімір Пятроў. Пятроў вядомы грамадскасці як вядучы сатырычных праграм. Яго таксама падазраюць у дачыненні да брудных піяр-кампаній. Планы ў Пятрова амбіцыйныя. У сваёй праграме ён абяцае ў выпадку перамогі «вяртанне Украіне адвечных тэрыторый, якія цяпер належаць Польшчы, Беларусі, Расіі, Румыніі, Венгрыі». У выпадку Беларусі, хутчэй за ўсё, гаворка ідзе пра тэрыторыі, якія па выніках Брэсцкага міру ў 1918 года ўвайшлі ў склад Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР). Тады паўночная мяжа УНР прыкладна праходзіла па лініі Гомель—Мазыр—Брэст. Зрэшты, шанцаў перамагчы ў Пятрова вельмі мала. Наогул, не выключана, што ён з'яўляецца кандыдатам-спойлерам, які павінен адцягнуць галасы ў коміка Уладзіміра Зяленскага. На карысць гэтай версіі — наяўнасць у праграме Пятрова іншых незвычайных абяцанняў: заканадаўча замацаваць права кожнага грамадзяніна на бясплатны хлеб і інтэрнэт, адмена крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці за крадзеж прадуктаў харчавання, трансфармацыя Украіны ў праваслаўную дзяржаву.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРГ. Абмежаваць колькасць палётаў

У нямецкім парламенце пачалі казаць пра тое, каб увесці ліміт на выкарыстанне самалётаў для грамадзян ФРГ. Такая мера дапаможа барацьбе з кліматычнымі зменамі. Рэформу падтрымліваюць «Зялёныя», да якіх далучылася частка сацыял-дэмакратаў і кансерватараў. А вось іншыя рашуча супраць. Асабліва пратэстуюць лібералы. Па словах іх лідара, забарона на палёты ўтрымлівае пагрозу стварэння паліцэйскай дзяржавы, паколькі кантроль над падарожжам патрабуе стварэння адпаведнай дзяржаўнай службы. Тая, у сваю чаргу, будзе вымушаная сачыць за прыватным жыццём. Яшчэ адзін моцны аргумент супраць абмежавання паветраных падарожжаў — магчымы рост тарыфаў на перавозкі. З-за памяншэння колькасці пасажыраў авіякампаніі будуць намагацца кампенсаваць страты за кошт новых цэнаў. Але прапанова не губляе актуальнасці праз тое, што праблему змены клімату трэба неяк вырашаць. Ужо пачаліся дэбаты наконт таго, колькі разоў на год немцу трэба лятаць. Эколагі лічаць, што тры разы — цалкам дастаткова.

**Паводле нямецкай прэсы**

# У чаканні тэсту на сапраўднае яўрэйства



Алег НОВІКАЎ

**Амерыканскія яўрэі патрабуюць ад афіцыйнага Вашынгтону прыпыніць падтрымку Ізраіля, калі ў складзе будучай урадавай кааліцыі з'явіцца партыя «Моцны Ізраіль».**

Міністр унутраных спраў Ізраіля ў кабінеце Біньяміна Нетаньяху заявіў, што яўрэі — выхадцы з экс-СССР павінны будуць здаваць тэст ДНК на яўрэйства. Да гэтага кроку ўладу здаўна заклікалі радыкалы і аўтарытэтныя ізраільскія рабіны. Апошнія, дарэчы, ужо пачалі адмаўляцца праводзіць шлюбныя цырымоніі без адпаведнай даведкі з медычнай лабараторыі.

З навуковага пункту гледжання, з тымі аналізамі ДНК яшчэ шмат незразумелага. Аднак рэпатрыянты, асабліва з былога СССР, напружыліся ад такіх навінаў. І не толькі яны, бо радыкалы мараць правяраць не толькі будучых рэпатрыянтаў. Пад праверку, на іх думку, таксама павінны патрапіць тыя, хто раней прыехаў у Зямлю Запаветную. Лічыцца, што сярод мігрантаў з СНД прыкладна 400 тысяч атрымалі ізраільскі пашпарт па падробленых дакументах. Сапраўды, у бурлівыя 1990-я гады ў нашых шыротах за адпаведную суму можна было набыць любую паперку.

Тое, што хутка ў Ізраілі могуць пачаць праводзіцца масавыя генетычныя тэсты, тлумачыцца асаблівасцямі палітычнага моманту. У красавіку выбаршчыкаў запрасяць на датэрміновыя выбары ў Кнесет. Каб захаваць прэм'ерскую пасаду, Нетаньяху патрэбна абысці аб'яднанне левацэнтрыстаў, якія пакуль захоўваюць лідарства. Неабходную перавагу вырашана забяспечыць за кошт альянсу з правымі і клерыкальнымі структурамі, якім на перспектыву прыходзіцца абяцаць усё, што яны пажадаюць.

Найбольш негатыву ў грамадскасці выклікае прысутнасць у згаданай кааліцыі партыі «Моцны Ізраіль», якая паўстала ў 2012 годзе. Партыя належыць да правага флангу ізраільскага палітычнага спектру. Як вынік, ёй уласцівыя антыарабскія лозунгі, заклікі пашырыць каланізацыю палесцінскіх земляў, узмацняць выкладанне рэлігіі ў школах. Аднак «Моцны Ізраіль» ідзе далей — і патрабуе нават дэпартацыі з Ізраіля асобаў, якія нелаяльныя да дзяржавы. Прычым, нелаяльнасць тлумачыцца вельмі шырока. Напрыклад, усім арабам-рэзідэнтам Іерусаліма партыя прапануе пакінуць горад, паколькі гэта супярэчыць запаветам Торы.

Нельга не ўзгадаць незвычайную ініцыятыву партыі супраць маладых палесцінцаў, якія любяць кідаць камяні ў яўрэйскіх каланістаў. Увосень мінулага года «Моцны Ізраіль» абвясціў пра план ідэнтыфікацыі і арышту ўсіх (!) асобаў, якія кідалі тыя камяні, і іх прыцягнення да крымінальнай адказнасці. Партыя запланавала здымаць доказы з дапамогай беспілотнікаў, якімі павінны былі кіраваць навучаныя валанцёры. Навучанне добраахвотнікаў і купля беспілотных лятальных апаратаў былі аплачаныя з дапамогай паспяховай кампаніі краўдфандынгу.

Дыскрэдытуе Нетаньяху і тое, што яго саюзнікі з «Моцнага Ізраілю» звязаны з парамілітарнай групоўкай Kahanist Kach. Апошняя ў свой час планавала забойства кіраўнікоў палесцінскіх муніцыпалітэтаў, і нават падрыў Аль-Аксы — адной з самых шанаваных у мусульманскім свеце мячэцяў, што знаходзіцца ў Іерусаліме. На рахунку яе баявікоў — забойствы простых вулічных гандляроў. Адзін з былых лідараў Kahanist Kach цяпер узначальвае выбарчы спіс «Моцнага Ізраіля».

Перадвыбарчыя віражы Нетаньяху вельмі не спадабаліся за акіянам. Яго нават раскрытыкаваў Амерыкана-ізраільскі камітэт па сувязях з грамадскасцю (AIPAC), які лічыцца самай уплывовай лабісцкай яўрэйскай групоўкай у Злучаных Штатах. Пазней да AIPAC далучылася не менш паважаная структура — Амерыканскі яўрэйскі камітэт (AJC). «AJC звычайна не каментуе палітычныя партыі і кандыдатаў падчас выбараў», — гаворыцца ў заяве камітэта, але дадаецца, што «вядучыя ізраільскія партыі павінны ўстрымлівацца ад саюзу з правымі радыкаламі». Часам у публікацыях ліберальных ізраільскіх медыя, якія каментуюць сітуацыю, можна сустрэць такі незвычайны тэрмін, як «яўрэйскі фашызм». Выказалі салідарнасць на адрас AIPAC і AJC і шматлікія яўрэйскія арганізацыі Еўропы. Відавочна, яны негалосна звязваюць рост антысемітызму ў краінах ЕС са знешнім іміджам Ізраіля.

З іншага боку, Нетаньяху пакуль ігнаруе крытыку на свой адрас. З улікам гэтага можна думаць, што «Моцны Ізраіль» сапраўды мае шанец стаць сябрам наступнага ізраільскага кабінету. Ці сапраўды амерыканска-ізраільскі саюз будзе разбураны пасля 8 красавіка, калі адбудуцца выбары? З улікам традыцыйна моцных амерыканска-ізраільскіх сувязяў і ролі Ізраіля ў стратэгіі ЗША на Блізкім Усходзе, у такі сцэнар верыцца слаба. Хаця штосьці ў адносінах паміж саюзнікамі сапраўды можа змяніцца.

Спачатку Нетаньяху трэба выйграць выбары. І зрабіць гэта будзе цяжка, хаця б таму, што 400 тысяч «ліпавых» ізраільцян, якім дакладна не захочацца рабіць тэст ДНК на яўрэйства, будуць галасаваць супраць цяперашняга прэм'ера.



Фота www.evreimir.com

# Як «зяленскаманія» змяніла Украіну

Алег НОВІКАЎ

**На наступным тыдні — першы тур выбараў прэзідэнта Украіны. Адной з галоўных фішак кампаніі стаў феномен коміка Уладзіміра Зяленскага, які лідзіруе ў рэйтынгах кандыдатаў. Але наступствы яго папулярнасці могуць быць больш сур'ёзнымі і нечаканымі.**

«Папросту сышліся зоркі», — разводзяць рукамі палітолагі, што спрабуюць тлумачыць узлёт артыста. Гэта ў тым ліку адсутнасць адзінага кандыдата ад Паўднёвага Усходу, адкуль паходзіць Зяленскі. Гэта і ідэйнае падабенства праграм яго канкурэнтаў. Гэта агульнаеўрапейскі трэнд, калі ў палітыку ідуць комікі (Бэпэ Грыла ў Італіі або Мар'ян Шарэц у Славакіі). Нельга не адзначыць, што фігура шоўмена задавальняе ўсіх. Нездарма адзін з экспертаў параўнаў Зяленскага з кніжкай «Расфарбуй сам». Безумоўна, на Зяленскага працуе пазнавальнасць — вынік папулярнасці яго шоу «95-ты квартал».

І, нарэшце, нянавісць. Нянавісць электарату да палітычнай эліты, якая столькі разоў абяцала і падманвала. Нянавісць настолькі моцная, што людзі гатовыя дараваць Зяленскаму адсутнасць выразнай палітычнай праграмы, кампрамат, які льецца на яго з усіх бакоў. Ну і ў выніку яшчэ адзін момант, які спрыяе поспеху артыста. «Гэта проста пашчасціла так!» — неяк заўважыў Зяленскі.

Такі прыкладна спіс фактараў, якія, на думку палітолагаў, літаральна за пару месяцаў высунулі шоўмена ў лідары прэзідэнцкай гонкі. Усе названыя прычыны маюць месца. Але пры гэтым поўнага малюнку ўсё роўна няма. «Да ні халеры мы не ведаем пра Зяленскага!» — не так даўно нечакана прызнаў адзін з паліттэхнолагаў на канале «Ukrlife».

Найперш, ніхто добра не ведае маладое пакаленне, якое раптам палітызаваў лідар «95-га квартала». У сілу сваёй апалітычнасці і геданізму, маладыя ўкраінцы традыцыйна на выбары не ходзяць. Як вынік, гэтая частка грамадства мала цікавіла палітолагаў і сацыёлагаў.

На гэты раз маладыя нечакана адклалі ўбок свае гаджэты і запісаліся ў «людзі Зэ» (так называюць валанцёраў штаба коміка-кандыдата). Больш за тое, прадстаўнікі іншых узроставых груп ускладаюць менавіта на гэтую генерацыю ўсе надзеі на пазітыўныя змены. «Ура! Ніводнай старой морды злодзея!» — пракаментаваў адзін з сумскіх блогераў фота чальцоў мясцовага штаба Зяленскага.




Фота www.suslov.com.ua

**Хто б ні атрымаў прэзідэнцкую булаву (сімвал вярхоўнай улады ва Украіне), у тым ліку кандыдат-артыст, ён павінен будзе адразу прадэманстраваць рашучасць, каб як мінімум забяспечыць стабільнасць грамадства пасля выбараў**

Пры гэтым на арэну выходзіць новае пакаленне са сваімі прынцыпамі і прыярытэтамі. «Нас гатовае пасунуць па-сапраўднаму маладое пакаленне, цалкам спароджанае новай лічбавай эрай. І ў гэтай моладзі выявіліся ўласныя густы і прыярытэты», — прызнаецца кіеўскі публіцыст Міхаіл Дубінскі.

Дубінскі таксама адзначае, што новая генерацыя думае зусім аўтаномна ад дзяржаўных ідэолагаў. «У адказ на казённую патэтыку і героіку новае пакаленне скептычна паціскае плячыма. У адказ на забароны — уключае VPN. У адказ на квоты — сыходзіць на YouTube. У адказ на катэгарычнае «Армія, Мова, Віра!» — падтрымлівае коміка Зяленскага. Ці добра гэта, ці дрэнна, але гэта заканамерна і натуральна. І з гэтым давядзецца лічыцца», — кажа ён.

З іншага боку гучыць правакацыйны тэзіс аб тым, што Зяленскі — цалкам прагматычная рэакцыя часткі палітычнай эліты (клан алігарха Каламойскага) на патрэбу ўкраінскага палітычнага рынку. Але гэта патрэба не ў тым, каб у межах вольнай выбарчай працэдуры карэктаваць курс краіны. Лёс краіны іх не хвалюе. На першым месцы — банальнае жаданне глядзець якаснае шоу, якое, маўляў, можа забяспечыць Зяленскі.

Палохае не толькі ступень адчужанасці грамадства ад дзяржавы. Такая калектыўная ўстаноўка ў перспектыве ператварае палітыку ў адкрыты шоу-біз. «Зяленскі выцірае межы паміж палітыкай і шоу-бізнесам ва ўмовах, калі традыцыйныя эліты страчваюць магчымасць прапанаваць шырокім народным масам прывабны вобраз будучыні», — адзначае журналіст Дзяніс Гаеўскі, не адказваючы на важнае пытанне: а дзе ж будуць праходзіць межы ператварэння палітыкі ў відовішча? Ці варта чакаць, што на наступных выбарах усе алігархі будуць укладаць грошы ў кандыдатаў-артыстаў?

Ці сапраўды феномен Зяленскага можа запусціць пазітыўныя або негатыўныя змены ў краіне? Свой варыянт адказу прапануе «Новаму Часу» кіеўскі журналіст Юрый Палянін.

— Можа быць, у іншы час Зяленскі і спарадзіў бы нешта новае, свежае і нават прагрэсіўнае. Аднак цяпер значна мацней запыт на моцную руку. Уласна ад гэтага не сышоў і сам Зяленскі, які абяцае пасля перамогі пакараць Парашэнку і запускае ролікі, у якіх яго кінагерой расстрэльвае Вярхоўную Раду. Хто б ні атрымаў прэзідэнцкую булаву (сімвал вярхоўнай улады ва Украіне. — НЧ), у тым ліку кандыдат-артыст, ён павінен будзе адразу прадэманстраваць рашучасць, каб як мінімум забяспечыць стабільнасць пасля выбараў. Пакуль іх драматургія толькі абвастраецца. Паколькі гэты момант будзе вызначальным, пра нейкія буйныя грамадска-палітычныя эксперыменты бліжэйшым часам давядзецца забыцца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ангела Меркель



Канцлер ФРГ фактычна прапанавала рэфармаваць Раду Бяспекі ААН — яна падтрымала праект дэлегаваць туды прадстаўніка ад Еўрасаюза. Як вядома, у Радзе Бяспекі засядаюць Вялікабрытанія, ЗША, Кітай, Францыя і Расія як пераемнік СССР. Яны валодаюць правам вета.

Такая канфігурацыя існуе з часоў стварэння ААН і, на думку многіх, састарэла. Напрыклад, Кіеў лічыць, што за кошт права вета Расія дасюль прысутнічае ў анексаваным Крыме. Неаднаразова гучалі заклікі дэмакратызаваць працэс прыняцця ключавых рашэнняў, у тым ліку шляхам допуску ў Раду Беспекі новых чальцоў. З'яўленне там Еўрасаюза ўяўляецца цалкам лагічным, улічваючы вагу аб'яднання ў сусветнай палітыцы і эканоміцы.

Аднак нечакана ўзнікла праблема. Францыя, гледзячы на першыя каментары французскіх палітыкаў, не адмовіцца ад свайго месца ў Радзе Бяспекі на карысць ЕС. Французская прэса нават піша пра тое, што ідэя Меркель — падступны ход Берліна, каб падпарадкаваць сабе Еўропу. Германія — асноўны гаспадарчы партнёр для многіх краін Усходняй Еўропы, якія, маўляў, падтрымаюць у Еўрапарламенце нямецкага кандыдата на пасаду прадстаўніка ЕС у Радзе Бяспекі ААН.

Між іншым, такая пазіцыя Парыжа падрывае еўрафільскі імідж Макрона, які на мінулым тыдні звярнуўся да еўрапейцаў з адкрытым лістом і заклікаў да паскоранай інтэграцыі краін ЕС.

### Карэн Брэдлі



Міністарка Паўночнай Ірландыі ў брытанскім кабінеце Тэрэзы Мэй выклікала з мінулага дух troubles — так называюць перыяд супрацьстаяння ірландцаў-каталікоў і Лондана ў 1960–1990-х гадах.

Усё з-за фразы пра тое, што 90 працэнтаў забойстваў у часы troubles здзейснілі тэрарысты з Ірландскай рэспубліканскай арміі (IRA). Што тычыцца брытанскіх салдат, якіх тады ўвялі ў мяцежную правінцыю, то яны, на думку міністаркі, нясуць адказнасць толькі за 10 працэнтаў забітых, і тое ўскосна, бо дзейнічалі ў межах загаду. Тырада Брэдлі выклікала прадказальную незадаволенасць як сярод мясцовых каталікоў, так і ў Дубліне. Ірландскі прэм'ер заклікаў Лондан хаця б дапусціць магчымасць таго, што салдаты Яе Вялікасці маглі здзяйсняць ваенныя злачынствы.

Што тычыцца спікераў праірландскай партыі «Шын Фейн» (Sinn Féin), то яны разглядаюць словы Брэдлі як рэлікт каланіялізму і спробу ціску на суд Паўночнай Ірландыі. На наступным тыдні ён павінен разгледзець справу пра адказнасць брытанскіх жаўнераў за расстрэл мірнай дэманстрацыі каталікоў у паўночнаірландскім Дэры ў 1972 годзе, калі былі забітыя 14 чалавек.

Не выключана, што словы Брэдлі адмоўна паўплываюць на ход перамоў па Brexit, дзе бакі не могуць знайсці кампрамісу наконт будучага рэжыму на брытана-ірландскай мяжы.

### Саранбай Жээнбекаў



Прэзідэнт Кыргызстана на з'ездзе суддзяў пачаў выступ з чытання выказвання прарока Мухамеда і адзначыў, што «самае галоўнае — трэба баяцца закона і Найвышэйшага». Гэта, як лічаць некаторыя, сведчыць пра паступовы адыход Кыргызстана ад прапісанага ў Канстытуцыі свецкага характару дзяржавы.

Праўда, нічога сенсацыйнага, напэўна, тут няма. Прычына хуткай ісламізацыі краіны хаваецца ў сацыяльных праблемах, эканамічнай дэградацыі, адсутнасці якаснай свецкай адукацыі на фоне папулярызацыі медрэсэ — ісламскіх школ. У рэгіёнах мячэць паступова стала адным з галоўных сацыяльных інстытутаў. У такой грамадскай атмасферы ўсе палітыкі так ці інакш вымушаны здабываць сябе вобраз «праваівернага». Праўда, застаецца шанец, што атрымаецца стварыць нейкую памяркоўную ісламісцкую партыю, якая не дапусціць прыходу да ўлады радыкалаў. Магчыма, менавіта гэтым і займаецца Жээнбекаў, які публічна цытуе Каран.

У наступным годзе ў краіне пройдуць парламенцкія выбары. Ужо зараз відавочна, што на выбары вылучацца шмат імамаў, якія маюць сваю паству. І нельга не ўзгадаць, што папярэдні прэзідэнт Атамбаеў спрабаваў спыніць моду на іслам ды папулярызаваў «тэнгрыянства» — мясцовы старажытны паганскі культ.

# Дзе ў Мінску захоўваецца памяць пра беларускіх татараў?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Яшчэ напачатку 1960-х гадоў у сталіцы на месцы сённяшняга фантану ля гасцініцы «Юбілейная» можна было ўбачыць мячэць, а там, дзе цяпер каля сучаснай мячэці раскінуўся Татарскі сквер, — мусульманскія могілкі. Разам з мастацтвазнаўцам Сяргеем Харэўскім мы прайшліся па сучасным Мінску ў пошуках памяці пра беларускіх татараў.**



Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі

## Адкуль на нашых землях ліпкі

Сёлета споўніцца 700 гадоў з першай згадкі пра ўдзел мусульманаў у нашай гісторыі. У 1319 годзе (дата вагаецца да 1322 года) вялікі князь Гедымін запрасіў да сябе швадрон татараў, якія дапамаглі яму ў бітве з крыжакамі.

Гэты хаўрус вельмі шанаваў і вялікі князь Вітаўт. Хан Тахтамыш, калі прайграў гульню за залатаардынскі пасад, папрасіў у Вітаўта прытулку, і той яго даў — такім чынам татары пасяліліся ў Лідзе. Больш за тое, унук старасты Лідскага замка Менглі Гірэй, які нарадзіўся і вырас тут, пасля стаў першым ханам Крыма і пачынальнікам крымскай дынастыі Гірэеў.

Аднак самая вялікая колькасць мусульманаў трапіла на нашы землі ў час бітвы пад Клецкам 1506 года. Гэта былі каля 30 тысяч палонных, чых супляменнікаў разбіў князь Глінскі. Большасць з тых палонных аселі ў Клецку, многія перабраліся ў Мінск і іншыя гарады і мястэчкі.

Першае ж мусульманскае паселішча ўзнікла на мяжы XIV — XV стагоддзяў на рацэ Ласосне блізу Гародні — зноў жа, з дазволу Вітаўта. Гэтае паселішча захоўвалася да 1930-х гадоў.

— Сам тэрмін «татары» ў дачыненні да нашых мусульманаў не зусім карэктны, — зазначае Сяргей Харэўскі. — Ён прышчапіўся ў часы Расійскай імперыі. У XIX стагоддзі ў Расіі татарамі называлі ўсіх мусульманаў. Самі яны аддавалі перавагу, каб іх называлі проста мусульманамі. Іншыя ж мусульмане традыцыйна называлі іх «ліпкі». «Ліпа» — гэта скажонае цюркскае «Літва». Адпаведна, татараў, якія жылі ў нас, на Літве, называлі ліпкамі.

Татары асацыяваліся перадусім з перасоўным ладам жыцця. Але нашы мусульмане паходзілі з вайроў і атрымлівалі шляхецтва, таму, быўшы асабіста вольнымі і жывучы ў краіне з Магдэбургскім правам, лічылі сябе вышэйшымі за качэўнікаў з Прычарнамор'я ці Паволжа.

## Што лучыць Шабаны і Луцкевічаў?

Захаваліся дакументы, датаваныя 1596 годам, калі мінскі татарскі староста Салейман прасіў у вялікага князя Аляксандра дазволу забраць пад мячэць нікому не патрэбную пустую Пятніцкую царкву, што знаходзілася ў прадмесці Мінскага замка, якое знялюдзела ў выніку халеры. І князь дазволіў. З таго часу вядзецца непарыўная гісторыя мусульманаў у Мінску. А перароблена ў мячэць царква Святой Параскевы Пятніцы стаяла менавіта там, дзе цяпер размешчаны фантан ля гасцініцы «Юбілейная». Стаяла яна тут (вядома, перабудаваная) да пачатку 1970-х гадоў, але пра гісторыю яе знішчэння — пазней.

**У часы Расійскай імперыі большасць беларускіх мусульманаў здолела пацвердзіць сваё шляхецтва, бо амаль усе яны былі землеўласнікамі. З пачаткам Грамадзянскай вайны многія з іх абралі супрацьлеглы бальшавікам бок, і таму былі рэпрэсаваныя**

Цяпер у Мінску хіба людзі сталага веку ўзгадаюць, што вуліца Дзімітрава раней называлася Вялікай Татарскай, а ў адным з захаваных будынкаў па вуліцы Вызвалення з 1921 па 1928 гады была татарская школа. Сёння акурат па цэнтры колішняга Татарскага прадмесця чорным зубам узвышаецца будынак гандлёвага цэнтру «Галерэя Мінск».

Канкрэтных матэрыяльных сведчанняў, звязаных з гісторыяй мінскіх татараў, бадай, ужо і не знойдзеш. Але засталіся месцы. Напрыклад, раён цяперашняга гатэлю «Вікторыя» некалі быў вёскай Бесмялаўкай (Бясмілаўкай, Бесіялаўкай, Байсалаўкай), вядомай з XVII стагоддзя. Яшчэ літаральна дзесяць гадоў таму ў бок сучаснага Парка Перамогі вялі два Бесіялаўскія завулкі. Апошнія дамы гэтай вёскі, паходжанне якой наўпрост звязана з татарамі, зніклі менавіта падчас добраўпарадкавання парка.

А гісторыя гэтага месца такая. У 1703 годзе ўрочышча Бесіялаўка набыў ксёндз Круковіч для мінскага мужчынскага кляштару бенедыктынцаў. Пазней таксама быў прыкуплены фальварак Кальварышкі, дзе сёння знаходзіцца будынак выставачнага комплексу «БелЭкспа». Разам гэтыя тэрыторыі ў ХХ стагоддзі пачалі звацца Весялоўкай, і гэты тапонім мінчукі памятаюць да сёння. Назва ж Бесіялаўка паходзіць з цюркскай мовы і ў перакладзе азначае ціхі, спакойны.

У нашых краях, паводле даўняй традыцыі, Спакойнымі называюць вуліцы, якія вядуць на могілкі. І менавіта вёска Бясмілаўка пралягала на шляху да мусульманскіх могілак — мізару. Вусная ісламская традыцыя кажа, што могілкі мусяць знаходзіцца ад жылых месцаў на адлегласці пяці крыкаў пеўня. Праўда, як вымераць гэтую адлегласць, ніхто не ведае. Тым не менш мінскі мізар, які ўзнік напрыканцы XVI стагоддзя, знаходзіўся досыць далёка ад гарадскога тлуму.

Цікава, што сённяшні праспект Пераможцаў на адрэзку ад мосту да вуліцы Мельнікайтэ насіў назву Малататарская вуліца. Гэта была частка Татарскага прадмесця, у якім былі і вуліца Замячэтная, і завулак Магаметанскі, а таксама вуліца Амуратарская, якая існуе і цяпер. Назва гэтая ўтворана ад асабістага імя Амурат, маёнтак якога, верагодна, тут знаходзіўся.

Калі казаць пра назвы, то і знакамітыя Шабаны маюць таксама ісламскае паходжанне: Шабан — восьмы месяц мусульманскага календара, які папярэднічае свяшчэннаму месяцу посту Рамадан. Адпаведна, прозвішчы Шабанаў, Шабановіч і падобныя паходзяць з мусульманства. Ці яшчэ адна сталічная назва: мікрараён Масюкоўшчына. Яна паходзіць ад імя Мусы Сяліцкага, татарскага старасты, які пераняў гэты маёнтак ад свайго дзядзькі Абрагама.




Мінская Саборная мячэць



Інтэр'ер мячэці


Магіла Хасэна Александровіча



Вуліца Татарская ў Мінску


Надмагіллі, якія знайшлі на колішнім мізары

Дарэчы, з прозвішчамі тая ж гісторыя. Мноства, здавалася б, абсалютна беларускіх прозвішчаў маюць мусульманскія карані: Александровіч, Адамовіч, Крыніцкі, Канапацкі, Палтаржыцкі, Багушэвіч, Багдановіч, Бахарэвіч, Дашкевіч, Луцкевіч, Смольскі, Сяліцкі... Такім чынам, аказваецца, менавіта мусульмане падарылі нам мноства выбітных асобаў.

### Вера — мусульманская, мова — беларуская

Самая вялікая колькасць мусульманаў на тэрыторыі Беларусі прыпадае на канец XVI стагоддзя: каля 100 тысяч. Гэтая лічба выводзілася з вояроў, якія выпраўляліся ў рушэнне, — а ўсе яны, гаворачы сучаснай моваю, былі ваеннаабавязаныя.

На нашых землях мусульмане мелі асабістую волю, атрымлівалі шляхецтва, маглі насіць зброю, і нават абіраць караля. За жонак яны бралі сабе мясцовых жанчын-хрысціянак. Ужо згаданы князь і кароль Аляксандр дазволіў гэта, як і выхаванне дзяцей у сваёй веры, пры ўмове, што вояры-мусульмане будуць аднажонцамі. Такім чынам у другім пакаленні яны ўжо былі мецісамі, вера ў іх была бацькава, а мова — матчына, тутэйшая.

— Таму мусульмане пачалі пісаць па-беларуску арабскімі літарамі. Яны прыдумалі дадатковыя знакі — ц, ч, дз і іншыя. У арабскай традыцыі гэта чыста фанетычны прынцып: як чуецца, так і пішацца. Дзякуючы гэтаму кітабы — арабскія кнігі, пісаныя па-беларуску, — проста бескаштоўныя для лінгвістаў: праз іх можна пачуць, як гучала наша мова, не абцяжараная правіламі лаціны ці кірыліцы, у XV, XVI, XVII стагоддзях, — кажа Харэўскі.

З пачаткам Контррэфармацыі і абвастрэннем адносін з Асманскай імперыяй беларускія мусульмане сталі адчуваць ціск. Ім нельга было займаць камандзірскія пасады ў войску, мінарэты мячэцяў не маглі ўзносіцца вышэй за храмавыя крыжы, не дазвалялася мець прыгонных-немусульманаў. Таму частка беларускіх татараў эміґравала ў Асманскую імперыю, а частка хрысціянізавалася — тыя ж Луцкевічы, Багушэвічы, Багдановічы...

### Добрыя суседзі, руплівыя гаспадары, ахвяры рэпрэсій

Паколькі на Беларусі мусульмане плацілі за шляхецкія вольнасці ўласным жыццём, бо мусілі ўдзельнічаць у вайсковых кампаніях, то лічыліся людзьмі мужнымі і надзейнымі. А паколькі ім было забаронена мець прыгонных-немусульман, то жылі яны з плёну ўласнай працы, да таго ж не пілі, не чынілі гвалту, — карацей, былі ідэальнымі суседзямі. Больш за тое, падчас Другой сусветнай вайны многія нашы мусульмане сталі Праведнікамі народаў свету.

Многія ведаюць, што Татарскае прадмесце ў Мінску называлася яшчэ і Татарскімі агародамі. І сапраўды, мусульмане вырошчвалі шмат садавіны і гародніны. Сяргей Харэўскі тлумачыць гэта так: калі ўстаў для намазу за 15 хвілін да ўзыходу сонца, памаліўся — не кладзіся ж зноў спаць. Можна пайсці прапалоць агарод. І пакуль суседзі толькі прачынаюцца, у мусульманіна ўжо ўсё прапалатае і палітае. Дзе ж тут не быць добраму ўраджаю? Таму, калі ў Мінску замацавалася савецкая ўлада, на месцы Татарскіх агародаў у 1921 годзе бальшавікі стварылі саўгас «Чырвоны агароднік». Ён займаў тэрыторыю ад цяперашняга Палаца спорту да былых Байсалаўскіх завулкаў.

Але займаліся мусульмане ў часе паміж войнамі не толькі агародніцтвам. Яны былі выдатнымі гарбарамі (выраблялі скуру), кушнерамі (футра), рымарамі (майстравалі збрую для коней).

У часы Расійскай імперыі большасць беларускіх мусульманаў здолела пацвердзіць сваё шляхецтва, бо амаль усе яны былі землеўласнікамі. З пачаткам Грамадзянскай вайны многія з іх абралі супрацьлеглы бальшавікам бок, і таму былі рэпрэсаваныя.

— Нашы мусульмане сталі першай ахвярай бальшавіцкіх рэпрэсій паводле нацыянальнай прыкметы, — кажа Харэўскі. — Большасць мужчын былі ў царскім войску. У 1933 годзе ў Мінску адбыўся гучны працэс пра антысавецкае татарскае падполле, пасля якога ў Казахстан выслалі 7 чалавек. Некаторыя мусульмане пасля гэтага працэсу папрасілі дазволу ўладаў пераехаць да супляменнікаў у Крым. Такім чынам у 1930-я гады іх прысутнасць у Беларусі рэзка скарацілася.

Мячэць закрылі, і зноў адкрылі толькі падчас нямецкай акупацыі ў 1941 годзе, яна працягвала дзейнічаць да 1950 года. Тады з яе знялі паўмесяцы, будынак рэканструявалі і зрабілі ў ім клуб работнікаў рачнога транспарту. Капітальны дагледжаны будынак стаў «лішнім» пасля 1960-х, яго ліквідавалі разам з мізарам.






Інтэр'ер мячэці

### Унікальны субэтнас пад пагрозай

На колішнім мусульманскім мізары, які існаваў у Мінску з XVI стагоддзя, цяпер знаходзіцца адзіная магіла, у якой спачывае выдавец падпольнай газеты «Звязда» Хасэн Александровіч. Некалі вялізныя могілкі былі знішчаныя з 1972 па 1979 год (як і шматлікія яўрэйскія, каталіцкія, праваслаўныя) падчас падрыхтоўкі да Алімпіяды–80.

У 1989 годзе ў Мінску паўстала мусульманская абшчына, якая пачала змагацца за тэрыторыю колішніх могілак, каб яе хаця б не забудоўвалі. Нейкім цудам гэта ўдалося, і сёння былыя могілкі завуцца Татарскім скверам, а вуліца, што ідзе ўздоўж яго, — Татарскай (хоць раней была Вілейскай).

**У ісламе лічыцца вялікім грахом рабіць тое, чаго ты не разумееш: напрыклад, чытаць малітвы без ведання іх сэнсу. Менавіта таму мусульмане заўжды лічыліся самымі адукаванымі: бо, каб здзяйсняць намаз, трэба чытаць Каран і ведаць мову**

Некалькі гадоў таму побач, на вуліцы Грыбаедава, паўстала Мінская Саборная мячэць. Будавалася яна вельмі доўга. Першапачаткова яе фундавала саудаўская арганізацыя, але пасля ўзвядзенне было замарожанае на 10 гадоў. Дапамагла Турцыя: пры садзейнічанні амбасады гэтай краіны будынак, які сваім праектам паўтарае мячэць, што стаяла ў Мінску да 1970-х гадоў, быў дабудаваны.

На адкрыццё прыязджаў кіраўнік Турцыі Рэджэп Таіп Эрдаган, а таксама Аляксандр Лукашэнка, які падчас урачыстай цырымоніі пацалаваў Каран, што выглядала досыць канфузна. Справа ў тым, што ў ісламе лічыцца вялікім грахом рабіць тое, чаго ты не разумееш: напрыклад, чытаць малітвы без ведання іх сэнсу. Менавіта таму, дарэчы, мусульмане заўжды лічыліся самымі адукаванымі, прычым як мужчыны, так і жанчыны: бо для таго, каб здзяйсняць намаз, трэба чытаць Каран і ведаць мову.

Сёння ў Беларусі ёсць два муфтыяты: вялікі, які ачольвае Абу-Бэкір Шабановіч, і малы, якім кіруе Алі Варановіч. Мінская саборная мячэць належыць большаму муфтыяту, але мула тут не беларус, а турак, які, па словах Сяргея Харэўскага, валодае дзясяткам моваў. Дый наведвальнікі мячэці ў большасці — мігранты, якія прыехалі да нас з розных краін.

Сёння цяжка назваць дакладную лічбу беларускіх мусульман, якія насяляюць нашы землі яшчэ з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Яны самі лічаць, што іх колькасць складае каля 10 тысяч чалавек, але гэта ўключна з некалькімі тысячамі мусульман Беласточчыны і Віленшчыны. Нягледзячы на сусветныя міграцыйныя тэндэнцыі, у Беларусі мусульманаў становіцца менш. І можа так стацца, што неўзабаве мы зусім страцім гэты ўнікальны беларускі субэтнас.

Фота аўтаркі

# БагатаДата

**Ці ведаеце вы, што яднае Міжнародны дзень лясоў, Сусветны дзень людзей з сіндромам Даўна, Міжнародныя дні паэзіі, лялечнага тэатра і барацьбы за расавую дыскрымінацыю? Адказ у нашым чарговым аглядзе юбілейных і памятных дат.**



Міхал Анемпадыстаў

## 16 сакавіка

**1964.** Нарадзіўся беларускі мастак, дызайнер, паэт, мастацтвазнаўца ды культуролаг Міхал Анемпадыстаў. Вось што ён казаў пра бел-чырвона-белы сцяг: «Наш сцяг падаецца мне адным з самых прыгожых у свеце. Я разумею, што не магу быць незаангажаваным, але гэтае спалучэнне колераў аб'ектыўна пасуе для акцэнтацыі аб'екта з пункту гледжання каларыстыкі, оптыкі, псіхалогіі і фізіялогіі зроку. Узнікае аптычны эфект, быццам сцяг сам выпраменьвае святло». Мінулай зімой Анемпадыстава не стала.

## 17 сакавіка

**1999.** Не стала беларускага гісторыка Міхаіла Біча. Многія могуць памятаць са школьнага часу дапаможнік для вучняў ягонага аўтарства «Гісторыя Беларусі: Канец XVIII ст. — 1917 г.».

## 18 сакавіка

**1889.** Нарадзіўся беларускі археолаг Канстанцін Палікарповіч. Менавіта ён знайшоў на Беларусі стаянкі першабытнага чалавека, якія адносяцца да ранняга каменнага веку (палеаліту). Памятаеце з урокаў гісторыі і геаграфіі? Стаянкі гэтыя — каля вёсак Бердыж і Юравічы ў Гомельскай вобласці.

**1894.** Нарадзіўся грамадска-палітычны і каталіцкі дзеяч, музыка і публіцыст Альбін Стаповіч. Кіраваў у Вільні Беларускай друкарняй імя Францішка Скарыны і беларускім хорам пры касцёле святога Мікалая, абіраўся пaслом Сойма Польшчы ад Блока нацыянальных меншасцяў, спрабаваў стварыць партыю Беларускіх незалежных радыкалаў. Брат беларускага каталіцкага святара Казіміра Сваяка.

**1944.** Вызвалены больш за 33 тысячы ацалелых вязняў Азарыцкіх канцэнтрацыйных лагераў на Палессі (цяпер гэта Калінкавіцкі раён на Гомельшчыне). Лагеры былі створаныя фашыстамі на пачатку сакавіка каля пасёлка Азарычы непадалёк ад пярэдняга краю іх абароны. Па сутнасці, на балоце. Сюды прывезлі каля 50 тысяч вязняў, у тым ліку сыпнатыфознахворых. Мэтай было распачаць эпідэмію і распаўсюдзіць яе на савецкія войскі, каб замарудзіць іх наступ.

**1994.** У Маладзечна адбыўся першы фестываль майстроў тэатральнага мастацтва Беларусі «Маладзечанская сакавіца».

## 19 сакавіка

1909. Нарадзіўся музыказнаўца Браніслаў Смольскі, бацька кампазітара Дзмітрыя Смольскага.

## 20 сакавіка

**1889.** Нарадзіўся Часлаў Родзевіч, тэатральны і грамадскі дзеяч, брат драматурга Леапольда Родзевіча. Уваходзіў у Першую беларускую трупу Ігната Буйніцкага, быў камісарам Беларускага савецкага тэатра, працаваў у Інбелкульце. У 1930 годзе арыштаваны і асуджаны на 5-гадовую высылку ў расійскі Саратаў па «справе Саюза вызвалення Беларусі». У зняволенні загінуў.

**1939.** Нарадзіўся беларускі гісторык, сацыёлаг і палітолаг Эмануіл Іофе. Даследуе праблематыку Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі, адзін з вядучых адмыслоўцаў па гісторыі Халакосту.

## 21 сакавіка

Міжнародны дзень лясоў, а таксама Сусветны дзень людзей з сіндромам Даўна, Міжнародныя дні паэзіі, лялечнага тэатра і барацьбы супраць расавай дыскрымінацыі.

**1959.** Нарадзіўся Мікалай Ладуцька, старшыня Мінскага гарвыканкаму з 2010 па 2014 гады. Прыйшоў на гэтую пасаду з будаўнічай галіны. Пасля адстаўкі з пасады кіраўніка сталіцы кіраваў «Мотавела», а цяпер старшынюе ў Мінскім сталічным саюзе прадпрымальнікаў і працадаўцаў.

## 22 сакавіка

**1609.** Нарадзіўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян II Казімір Ваза, апошні з гэтай дынастыі. Стаў на чале Рэчы Паспалітай у 1648 годзе. На яго кіраванне прыпаў эканамічны заняпад і шматлікія разбуральныя войны: Казацкая вайна, Крывавы Патоп, вайна са Швецыяй. Краіна страціла шматлікія землі. Так, Крывавы Патоп (13-гадовая вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй) скончыўся ў 1667 годзе Андрусаўскім замірэннем, паводле якога былі страчаныя Смаленшчына, Чарнігаўшчына, Левабярэжная Украіна, Кіеў... Праз паўтара гады Ян II Казімір Ваза адрокся ад трона і з'ехаў у Францыю.

**1659.** Пастанова Сойма Рэчы Паспалітай аб заснаванні Брэсцкага манетнага двара і біцці медных солідаў (шэлегаў) — барацінак. Вагой трохі болей за грам, іх выпускалі мільёнамі, перадусім для выплаты доўгу перад войскам. Назва дробнай манеты пайшла ад прозвішча Ціта Лівія Бараціні, які кіраваў у той час манетныя двары ў праблемнай фінансавай сістэме Каралеўства Польскага і ВКЛ. Грошы гэтыя былі малавартыя, не надта яны цэняцца і цяпер сярод нумізматаў. Барацінак начаканілі столькі, што гэта спарадзіла інфляцыю. Бараціні нават судзілі за такую грашовую рэформу. Але Брэсцкі манетны двор — першы на тэрыторыі Беларусі.

**1864.** У Вільні на гандлёвым пляцы Лукішкі быў павешаны нацыянальны герой Беларусі, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гадоў Кастусь Каліноўскі. 26-гадовага Каліноўскага



спачатку збіраліся расстраляць, але генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю Міхаіл Мураўёў спраўдзіў сваю мянушку «Вешальнік». Перад пакараннем смерцю Каліноўскі напісаў «Лісты з-пад шыбеніцы» — своеасаблівы зварот да суайчыннікаў: «Народзе, тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Беларуская паэтка – па-літоўску

**У Вільні ў выдавецтве Versus выйшла кніга Сабіны Брыло «Малітоўнік прадзеда», паведамляе Радыё Свабода. Аздабленне зрабіў мастак Пятрас Лінцявічус.**



Сабіна Брыло

Па-літоўску вершы паэткі з Мінску перастварыў Гінтарас Граяўскас, а грошы на выданне 400 асобнікаў сабралі праз фэйсбук за 38 хвілін. Выданне «Малітоўніка прадзеда» ў падобны спосаб было ў Літве ўпершыню для кнігі замежнага малавядомага аўтара.

*«Гэта цуд. Цуд дэцэнтралізацыі, даверу, цікавасці. Краўдфандынг без аніякай пляцоўкі, гарызантальны і наўпроставы»*, — кажа Сабіна.

А ініцыятар выдання літоўскі паэт, драматург і перакладчык Гінтарас Граяўскас напісаў у прадмове да «Малітоўніка прадзеда»:

*«Выдаць кнігу вершаў у Літве нялёгка... Калі аўтар вершаў знакаміты ў Еўропе, лаўрэат прэмій — шанцаў болей. А калі іх аўтар — амаль невядомы паэт з Беларусі? Шанцаў практычна няма. Я ведаю, я спрабаваў.*

*Але што, калі паэт піша вельмі добра?..*

*І раптам падчас аднаго моцна адчайнага настрою ў адзін са студзеньскіх вечароў я пішу ў фэйсбук, не чакаючы надта многа: людзі, глядзіце! Я пераклаў тэксты харошае паэткі **Сабіны Брыло** — некаторымі з іх я ўжо дзяліўся, можа быць, вы памятаеце. Я хацеў бы зрабіць харошую кнігу. І, можа быць, хто-небудзь хацеў бы і мог зрабіць свой уклад у яе выданне?*

*І вось самая цікавая частка гісторыі.*

*Менш, чым праз гадзіну (!) у нас было шмат грошай, неабходных для выдання. Некаторым з апошніх жадаючых паўдзельнічаць нават казалі, што грошай больш не трэба, мы ім ветліва дзякавалі. Калі б мы не спыніліся, гэта, верагодна, выклікала б яшчэ адну кнігу».*

Ад ідэі да выхаду кнігі прайшло два месяцы. З 11 сакавіка «Малітоўнік прадзеда» будзе прадавацца ў кнігарнях Літвы і праз інтэрнэт. Аўтарку запрасілі на сустрэчы з чытачамі. Адна пройдзе 25 сакавіка ў Вільні ў кнігарні Mint Vinetu, а другая — 26 сакавіка ў адной з бібліятэк Клайпеды.

Сабіна Брыло нарадзілася ў Барысаве. Скончыла Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт. Працавала ў розных СМІ карэспандэнткай і рэдактаркай, пісала публіцыстычныя калонкі ў некалькіх медыях; суаўтарка дапаможніка па бяспецы для беларускіх журналістаў. Адна з сябраў калегіі літаратурнага клубу «Графо». Вершы друкаваліся ў перыядычных выданнях, на інтэрнэт-рэсурсах. Мае паэтычную кнігу «Это буквы».



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №410

Падпісана да друку 15.03.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. При выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.